Анатоль
Іверс

*

# жыву
# ў бацькоўскім
# краі

ВЕРШЫ
І ПАЭМЫ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1982

## «ХАЧУ НЕ ПРОСТА ЖЫЦЬ...»

На гэтым хутары цяпер ніхто не жыве. Адзінокі, удзірванеў ён у густой траве, зарос малліннікам, які ціха шастае сухалом'ем пад вокнамі. А гэта быў хутар яго бацькі. Ды і мацеры таксама. Толькі спачатку не яго, бо як сям'я выбіралася на хутар з вёскі Чамяры, што на Слонімшчыне, ён адбываў тады вайсковую павіннасць — служыў у польскай арміі, далёка ад Чамяроў — у карэннай Польшчы, у Плоцку.

Маці не дачакалася сына з Плоцка, загінула пад коламі легкавога аўтамабіля пана Гадлеўскага. Рэдкі тады быў аўтамабіль на шашы Слонім — Зэльва, але пан збіваў на ёй не толькі маладзенькія тады прысады-вербы. Збіў, нібы жартуючы, руплівую сялянку і ніякай кары за гэта не меў. Іх, паноў, была ўлада!..

Доўга не пісаў пра гэта бацька сыну ў Плоцк. Гляджу на парыжэлую ад часу, жахлівую фатаграфію. Ля забітай — у галавах — бацька паэта, сутулены, боты да халяваў у траве,— як быццам увайшлі ў зямлю пад неймаверным цяжарам, што ссутуліў плечы.

Не пісаў аб гэтым бацька сыну, бо ведаў, што ў руцэ ў яго сына-улана шабля, бо баяўся за сына, ведаў, памятаў: не быў бы ён з непрымірымых, паны не выкідалі б яго, заходнебеларускага камсамольца, з Віленскай, Клецкай, а потым і Навагрудскай беларускіх гімназій...

Маці паэта загінула ў 1935-м, пэўна, таго

і не ведаючы, што яна — маці паэта, які стане вядомы не толькі на Слонімшчыне, але і па ўсёй былой Заходняй Беларусі яшчэ да выхаду яго першай кніжачкі «Песні на загонах»...

Бацькаў хутар, аднак, стаў і ягоным, бо як з войска вярнуўся ён, Анатоль Іверс (а такі якраз псеўданім выбраў сабе Іван Дарафеевіч Міско), на хутары ўсё ж зазвінелі і цымбалы, і бубен з бразготкамі, і павяла сваю спаконвечную вясельную песню скрыпка, калі паэт жаніўся, браў з суседняй вёскі Асабнякі ціхую і сарамяжлівую Веру. Асабліва ж ягоным стаў хутар, калі прыйшла нямецка-фашысцкая навала, калі пад бацькавымі застрэшкамі і ён, і добрыя людзі хавалі сцягі і вінтоўкі, штыкі і патроны, а пасля — наводшыбе ад сяла і горада — пачалі збірацца на хутары і хлопцы і дзяўчаты, якія неўзабаве сталі падпольшчыкамі, партызанамі, сувязнымі...

Малаціў жыта на хутары бацька, а ў СД ішлі патаемныя даносы: Kreisverwaltung Slonim — Слонімская павятовая ўправа, і зялёным чарнілам ад рукі 12-X-1942, а таксама той жа рукой тым самым чарнілам: № 28 — нумар чарговага даносу бургамістра раёна, чый подпіс зноў жа тым самым зялёным чарнілам прастаўлены быў унізе — пад самым даносам. У даносе значылася: «Паведамляю, што жыхар хутара Чамяры Дарафей Міско спешна малоціць жыта і вывозіць яго са свайго хутара, прычым зусім не выконвае дзяржаўных паставак. Так як адзін сын Дзмітрый пайшоў больш двух месяцаў таму назад у партызанскія банды, ёсць поўныя падставы меркаваць, што Дарафей Міско спяшаецца ліквідаваць ці схаваць сваю маёмасць. Другі сын Іван Міско служыць у гарадскім магістраце; пад час бальшавіцкай улады быў рэдактарам слонімскай бальшавіцкай газеты. На гэтых днях Дзмітрый

Міско прыходзіў наведаць свайго бацьку і зноў пайшоў у лес...»

О, беларускі партызанскі хутар! Ты нешта зусім іншае, чым той, які стаў даволі традыцыйным вобразам хутара ў нашай беларускай дзілітаратуры: дзічэюць сабакі на ланцугах, дзічэюць адзінцы — людзі... Стаю на пагорку, з якога пазіраў на цябе падпольшчык і паэт Анатоль Іверс, не ў змозе вырваць з лапаў паліцаяў падпольшчыцы-жонкі Веры, асочанай імі ў лістападзе 1943 года якраз тут, на хутары. Не ў змозе таксама быў і ўжо лясны салдат-партызан І. Д. Міско, які заставаўся кіраўніком Слонімскай падпольнай антыфашысцкай арганізацыі і быў разам з тым намеснікам камандзіра атрада імя Ф. Э. Дзяржынскага брыгады імя К. К. Ракасоўскага Баранавіцкай вобласці,— не ў змозе ён быў уратаваць і старога бацьку, якога карнікі вывелі з гэтага ж хутара на пачатку 1944-га на галгофу Калдычэва, адкуль ні жонка Вера, ні бацька не вярнуліся.

Нялёгкім было ты, жыццё ў бацькоўскім краі, ды барацьбой было ты — непрымірымай, на жыццё і смерць. Памяццю суровай праўды жыцця народнага перш за ўсё і поўняцца часта скупыя на словы вершы Анатоля Іверса, сабраныя ў гэтай кнізе. І гэтым яны несумненна прыцягнуць увагу шырокага чытача. Але не толькі гэтым.

Хто нарадзіўся паэтам, той цікавы найперш як паэт. Як гаварыў мне калісьці сам Іван Дарафеевіч, выбар псеўданіма быў абумоўлены найперш яго незадаволенасцю распаўсюджанымі ў 20-я — на пачатку 30-х гадоў псеўданімамі ў заходнебеларускай паэзіі, накшталт Чабор, Васілёк і інш. Ён марыў не пра сялянска-кветкавы псеўданім, а пра такі, у якім бы чутно было водгулле слоў «Інтэрнацыянал», «рабо-

чы», «селянін». І гэта зразумела: 30-я гады ва ўмовах былой Заходняй Беларусі нараджалі новы тып рэвалюцыйнага інтэлігента і паэта, выхадца з вёскі. Але сёння мне здаецца, што яшчэ і водгулле імені «Вера», самога слова «вера» выразна адбілася на псеўданіме таго, хто стаў Анатолем Іверсам. Малады чалавек-інтэрнацыяналіст, блізкі пераемнік рэвалюцыйнай Заходнебеларускай сялянска-работніцкай грамады, ён глядзеў яшчэ на свет і вачыма юнака-рамантыка, якога на нялёгкі шлях змагання благаслаўлялі і імя дзявочае, і яе вялікасць вера ў бацькоўскі край, у свой народ.

Пачаў друкавацца Анатоль Іверс у тагачасным часопісе «Літаратурная старонка». Дваццаць шэсць вершаў было ў яго першай кніжачцы «Песні на загонах» (1939). Наступная ж кніжка паэта — «З пройдзеных дарог» — з'явілася толькі ў 1970 г. 60-я гады можна назваць часам новай актывізацыі паэта, як і 70-я. Зборнік «Жыву ў бацькоўскім краі» несумненна стане самай прадстаўнічай кнігай Анатоля Іверса, адлюстроўваючы ўсе ўздымныя моманты развіцця яго самабытнага таленту.

«Такое шчасце — бачыць далячынь!» — усклікаў лірычны герой Анатоля Іверса ў адным з яго ранніх вершаў. І гэтае шчасце паэт бачыў на ўсходзе — у Савецкай Беларусі, і выйшаў ён на бітву, у паход за яго з юначым гарачым сэрцам і незвычайнай песняй:

Недзе песню араты згубіў
На шнурах — на барознах крывых.
З ёю пеніцца вецер між ніў
У пырсках сонца — чырвонай крыві.

Аб якой згубленай песні была мова, заходнебеларускаму чытачу 30-х гадоў было ясна, як і тое, што гэта за вецер «пеніцца... між ніў у пырсках сонца — чырвонай крыві». Незвычай-

ныя метафары перадавалі запал непрымірэння з адарванасцю ад шчасця, ад Савецкай Беларусі,— той запал, які ў тым жа вершы «Да жніва» імкнуўся ўлавіць «песенны той пераліў, што не знае былля і мяжы», дэкляруючы ўпэўненасць, што «прыйдуць трактары ў полымя ніў, там, дзе некалі колас тужыў».

Малады паэт быў цалкам заваражаны будучым:

Нешта ж гавораць
Аб будучай долі
Шэлесты зораў
Ды з росамі ў полі.

(«Ноччу»)

І зноў жа заходнебеларускі чытач выразна разумеў, што гэта за «восень дробна імглу над зямлёй растрасла», «каб не бачылі мы, як зара занялася там», чаму пра «бедных палёў набалелую сінь» пяе паэт, чаму сумуе, што «біяграфія наша яшчэ не запоўнена ў звоне цяжкага молата, звоне сярпа» («Залацілася раніца»).

На ранннюю лірыку Анатоля Іверса выразна ўплывала беларуская савецкая паэзія 20-х гадоў, так званая маладнякоўская,— уплывала вобразнасцю, лексікай, інтанацыямі:

Узышоў, зарунеўся
Маладняцкі засеў.

Нам ісці па дарозе,
Што палын заглушыў.
З песняй мы пабаразнім
Каменістую шыр.

(«З песняй»)

Рамантычная, энтузіясцкая ранняя лірыка Анатоля Іверса, як, відаць, і любая лірыка любых часоў і любога іншага гатунку, не аказа-

лася разам з тым і без нейкіх такіх, на першы погляд, нібы выпадковых радкоў-агаворак, якія на самой справе ў выніку сталі радкамі-празарліўцамі, выяўляючы тое, што было затым наканавана песні паэта, самому паэту яго жыццёвым лёсам. Можа, пра гэта зусім і не думаў малады паэт, калі пісаў:

Прысыпае раны
Вецер ціхім шопатам,
Будзе новы ранак
І другія клопаты.

(«Моўчкі сонца села...»)

Ды ўсё ж гэтым ён якраз сапраўды прадчуў свае «другія клопаты...».

Журналісцкага пяра, пачынаючы з 1939 г., Іван Дарафеевіч Міско праз усе наступныя, шматлікія ўжо гады, можна сказаць, ні на дзень з рукі не выпускаў. Вось ён на даваеннай фатаграфіі, зусім малады, у кашулі нарасхрыст, з блакнотам і алоўкам у руцэ. Вось фатаграфія 29 студзеня 1945 г., паэт — у скуранцы, за рэдактарскім сталом; а вось цераз тры гады — студзень 1948-га, ён ужо у модным тады кіцелі, зноў за сталом, зноў з абсадкай у руцэ — як сакратар выканкома Слонімскага гарсавета. Калі ў руцэ ў яго была абсадка, яму пісалася. Ды з 1949 па 1965 год яму давялося працаваць майстрам смолзавода, тэхнолагам лесахімічнага завода. Гляджу на фота 1965 года, зробленае Ул. Калеснікам, укладальнікам вядомай анталогіі заходнебеларускай паэзіі «Сцягі і паходні». Іван Дарафеевіч сфатаграфаваны Уладзімірам Калеснікам у смольні, што на рэчцы Іса каля Слоніма. Іван Дарафеевіч стаіць каля смалакураннага халадзільнага чана, у руцэ ў яго — ні то дубовы, ні то кляновы лісток. Не было ў руцэ яго абсадкі, быў лірыч-

ны лісток як прычашчэнне песнямі лесу, якіх сёння ўжо гэтак шмат у гэтым аднатомніку і якія — спрэс шчырая лірыка самараскрыцця душы паэта:

І што тут дзівіцца: родам
Я з гэтых лясных мясцін.
(«Лясная ідылія»)

Я люблю вершы А. Іверса пра лес: і раннія — «Хтось расчэсваў зялёныя сосны», і сённяшнія яго радкі-прызнанні:

Сярод яловых готык
Заўжды я не чужы...
На партызанскіх сцежках
Не знойдзеце залом —
Квітнее наша ўсмешка
Усім ворагам назло.
(«Песенны край»)

Вершы А. Іверса другой паловы 60—70-х гадоў раскрылі жыццёвы лёс паэта найбольш шырока і глыбока, і іх дэкларацыі — часцей за ўсё менавіта ёмістыя паэтычныя формулы жыцця і барацьбы, вернасці Радзіме, праўды лёсу чалавечага, як, напрыклад, гэтыя:

...Я проста цяжкасці забыў:
Час раны добра лечыць.
(«У Плоцку»)

Дні бягуць, і мы старэем,
Маладзее родны край.
Чым мацнейшыя завеі,
Прыгажэйшым будзе май.
(«Дні бягуць, і мы старэем...»)

Таварышы, паверце,
Хачу не проста жыць,

Хачу да самай смерці
Радзіме паслужыць.

(«Жыву ў бацькоўскім краі»)

...На пагорку, з якога леташнім летам адкрываўся вачам маім і Івана Дарафеевіча хутар ягонага бацькі, што каля вёскі Чамяры на Слонімшчыне, адкуль мне ўведаць чаму, але здарылася так, што і ён, паэт, і я, ягоны госць, у адно і тое ж імгненне ўзгадалі ягоны верш «Успаміны». Задуменным, крыху маркотлівым голасам чытаў Анатоль Іверс:

Толькі хутар ля чыгункі
Дажывае доўгі век.

Гаспадар не йдзе на хутар —
Ні стары, ні малады,
Дзе туман, як дым, ахутаў
І падзеі, і гады.

— Ахутаў бы,— сказаў тады я Івану Дарафеевічу, дадаючы: — Каб з гэтай зямлі — з бацькоўскага краю не пайшоў у шырокі свет чалавек з песняй,— Анатоль Іверс! Там жа, дзе нараджаюцца паэты, ніякія туманы не ахутваюць «агонь падзей і дат», якія гараць у іхніх сэрцах.

АЛЕГ ЛОЙКА



## ЖЫВУ У БАЦЬКОЎСКІМ КРАІ

Жыву ў бацькоўскім краі,
А ён ва мне дрыжыць.
Таму і не ўміраю,
Хачу яшчэ пажыць,

Каб бачыць цуд — світанне
І ў золаце палі,
Пачуць зямное гранне,
Дзе сэрца зазямліў.

Усё цудоўна, міла
У родных берагах.
Тут маладосць хадзіла
З касою па лугах

І басанож за плугам
Ступала баразной.
(Хоць гэта не заслуга,
Прыемна ўспомніць зноў.)

Штогод рабіў абнову
Сасновы маладняк,
Я матчыную мову
Ўдыхаў, як водар дня.

Жыву ў бацькоўскім краі,
Ўстаю [redacted] зарой — да дня.
Няма фашысцкай зграі,
Бо вымелі да дна.

Што дзень сягоння — свята,
Іду у даль-прастор,
Шлю прывітанне хатам
З усіх дарог, мастоў.

Таварышы, паверце,
Хачу не проста жыць,
Хачу да самай смерці
Радзіме паслужыць.

*1981*



*З кнігі*

# «ПЕСНІ НА ЗАГОНАХ»

*(1939)*

## ПЕСНІ НА ЗАГОНАХ

Як выйдзеш на поле і глянеш навокал:
Лясы, сенажаці, дарогі і нівы.
І дыхаюць грудзі свабодна, шырока,
Дзе ветры расчэсваюць жытнія грывы.

Таму ў нас і песні цвітуць на загонах.
У нас кожны — паэт, калі з сэрцам гарачым,
Смяецца ў парывах цымбалістых тонаў,
А гора прыцісне, дык скрыпкай заплача.

Ды песня не можа пазбегнуць удараў,
Свабодна прабіцца праз лёс наш пакутны.
А хмары плывуць з зарумяненых даляў
Густым караванам на шлях сухапутны.

*1938*

* * *

Я век прыкаваны да хаты
Нядоляю нашай, як раб.
Але ў маіх думках крылатых
Заўсёды іскрыцца зара.

І там — на дарогах расстайных
Не буду я ўжо варажыць.
Ўсе чыста заклятыя тайны
Павешу на першым крыжы.

Адзначыць каб добрую ўдачу,
Я зораў з сабой набяру
І жменяю сыпну — няйначай,
На славу табе, Беларусь.

*1938*

## У ШУМЕ ЖЫТА

У шуме жыта —
Даль адкрыта.
Над палямі вецер-хват.
Я іду ў туман ракітаў
З цесных вуліц, з душных хат.

Там на полі
На прыволлі —
Шырыня і шырыня.
Мо заглушыць ў сэрцы болі
Залацісты золак дня.

Хай на росах
Сонца косы

Загарацца, як тады,
Калі хлопчыкам ў пракосах
Раскідаў свае гады.

Хай на нівах
Палахлівых
Задрыжаць парывы хваль,
Ў жоўта-сініх пералівах
Закурыцца сіня даль.

А ў тым моры
На прасторы
Буду я страчаць зару.
І туды з арбіты зорнай
Я паклічу Беларусь.

*1937*

## З ЧУЖЫНЫ

Да родных ніў, ваколіцаў
Пара ўжо мне, пара,
Бо сэрца кліча, моліцца
Туды — у родны край.

Туды, дзе хвалі Нёмана
Палошчуць берагі,
Дзе бор сасновым гоманам
Вясне спявае гімн.

Я там змагаўся з голадам,
Пазнаў там Беларусь,
Спаткаў сваю там моладасць,
Світальную зару...

Да родных ніў, ваколіцаў
Пара ўжо мне, пара,
Бо сэрца кліча, моліцца
Туды — у родны край...

*1937*

## У СІНЕЮЧЫЯ ПАПЛАВЫ...

У сінеючыя паплавы,
Маладосць, яшчэ раз паплыві!

Каб таемна зноў вабіла даль,
Каб не знаць, што такое бяда,

Каб смалою запах белы дым,
Каб у сэрцы бялелі сады...

Помню, бульбы тады не было,
Ды квітнелі прасторы балот.

Калі ж падала часам сляза,
Дык аб гэтым не варта казаць.

Лепш успомніць ля лесу агні
І бясхмарныя, светлыя дні.

Адышоў час дзяцінства ў нябыт.
Зацягнуўся тугою блакіт.

Тыя ж крыгі наехаўшых хмар
Мы адкінем грудзьмі на папар,

Каб ад чорнай і слізкай жуды
Закурэўся ў ваколіцы дым...

Маладосць, яшчэ раз паплыві
У сінеючыя паплавы.

*1937*

## ХТОСЬ РАСЧЭСВАЎ ЗЯЛЁНЫЯ СОСНЫ

Хтось расчэсваў зялёныя сосны,
Што адкінулі кудры назад.
Аб начах тых смалістых і росных
Я ніяк не магу расказаць.
І хоць сёння ўсхвалёваны ранак
Паліць смагаю мяккую сінь,
Але ўсё ж сумаваць яшчэ рана,
Калі можна падняць парусы!
З процьмы думак —
Не вытканых кроснаў —
Мне запомніўся ўзор — дзераза...
Былі ночы — іх зблыталі сосны,
Што адкінулі кудры назад.

*1938*

## МАЛЮНКІ

Балота, балота
І песня, як рунь.
Цвіце пазалотай
Мая Беларусь.

А там — пералівы
І золата сінь.
Скажы, мая ніва,
Чым доўг аддасі?

Ці зернем звінячым,
Ці песняй палос,
Дзе голад маячыць
Над шэрым сялом?

Мне хочацца верыць
Ў агні, што мігцяць,
Што зменіцца шэры
Парадак жыцця.

З суровым аблiччам
Ўстаюць гарады.
Дарога ўсё кліча —
Туды і туды...

*1938*



## НАД ШЧАРАЙ

Заігралі ветры ў полі,
Заігралі пераліўна.
І калышуцца таполі
Ў небе ласкавым і дзіўным.
І ўразаецца ў прасторы
Вузкі човен вострым клінам.
А на ўзмежку, нібы мора,
Шумам пеніцца каліна.
І кацілася з аддалля
Песня — сонца пазалота —
І злівалася на хвалях
З гібкім гоманам чаротаў.

Дзесь па зрэбных каляінах
Распаўзліся дні і ночы.
Іх збярэ мая Краіна
У вясёлкавы вяночак.
Дзе ні глянь —
ўсё сэрцу блізка:
Вёска, лес, вузкі палетак.
Пэўна, маці над калыскай
Напяяла мне пра гэта.

*1938*

## ПАД РАНАК

Марудна нейк у павуціну
Злятаді згубленыя зоры,
Дзе вечар наміткаю сіняй
Накрыў апошнія узоры.

Ў такую ноч люблю паслухаць,
Як сцежкі ў полі заміраюць.
І толькі часам звоніць глуха
Над рэчкай асака густая.

*1938*

## ВЕСНАВЫЯ ДУМЫ

Над палямі вецер,
Над палямі звонкі.
Зашумела вецце
Меднае сасонкі.

Там, дзе былі горы,
Горы снегавыя,
Там вада ў разорах
Пеніцца і вые.

Веснавыя думы
Не даюць спакою
Ў тым вясеннім шуме
З ранняю зарою.

Быццам дрэмле вёска
Ў полі паміж гораў...
Як жа мне расплёскаць
Смутак над прасторам?

Цёплыя прамені
Ходзяць па палетку.
А зярнят ні жмені —
Што пажну улетку?

У адказ [illegible] палосак
Вецер б'е па твары
І над ціхай вёскай
Наганяе хмары.

*1938*

## ГЭТА ВЯСНА

Можа, не ясна яшчэ уваччу —
Раніца мляўка туманам цвіце.
Сэрцам гарачым, душою адчуй:
Змена ідзе, разыходзіцца цень.

Сонца кранула жывую сцяну —
Лес адгукнуўся у тысячы струн.

Вецер парывіста даль сцебануў.
Сіняе неба, зялёная рунь.

Гэта вясна. А па хаце яшчэ
Поўзае гора ў абдымку з зімой.
Толькі зрываюцца іскры з вачэй,
Значыць, ідзём да жывых перамог.

*1938*

* * *

Я шукаў яшчэ вясною
Песняў звонкіх на палёх.
Ды задумаю лясною
Заківала мне галлё.

Што ж, пайду, мо там у лесе
Сіні шолах абтрасу
І вязанку новых песень
Весялейшых прынясу.

*1938*

* * *

І вось ізноў зазелянелі нівы
На родным полі полымем вясны.
А па садах малочныя узрывы,
Ну проста казка, хоць прысні!

А колькі музыкі, чароўных гукаў!
Яны плывуць, плывуць, нібы прыліў.

І пацягнула ўдаль мяне разлука
З крывых завулкаў Вільні да раллі.

Каб, змыўшы пот, у засені дубровы
Расправіць плечы, смачна адпачыць.
Хай сонца паліць залатыя бровы.
Такое шчасце — бачыць далячынь!

*1937*

## ДА ЖНІВА

Ты, радзімае поле, скажы
Каласістым павевам вясны,
Хай не хіліцца аж да мяжы
Жытні колас ля стромкай сасны.

Недзе песню араты згубіў
На шнурах — на баразнах крывых.
З ёю пеніцца вецер між ніў
У пырсках сонца — чырвонай крыві.

І зацiснуўшы туга жывот,
Кажа дзецям цярпець... да жніва.
Галаву перакінуў праз плот,
Каб вачыма калоссе зрываць.

Ловіць песенны той пераліў,
Што не знае былля і мяжы.
Прыйдуць трактары ў полымя ніў,
Там, дзе некалі колас тужыў.

* * *

Моўчкі сонца села
Ў лозы нізкарослыя.
Ах, як свежым сенам
Пахнуць далі росныя!

Ныюць ногі, плечы,
Сон крадзецца, сцелецца.
А па Шляху Млечным
Зоры ўжо мяцеляцца...

Прысыпае раны
Вецер ціхім шопатам.
Будзе новы ранак
І другія клопаты.

*1937*

## ЗАГАРЭЛІСЯ ІСКРАМІ ЗОРНЫМІ

Загарэліся іскрамі зорнымі
Над дрыгвою балот, над разорамі
Зоры ясныя, зоры бліскучыя,
Што з зямлёю навечна разлучаны.
І шумела палоска калоссямі,
Ды шумела да позкае восені.

Не вятры праляцелі над хатаю
І не хмары цяжкія, кудлатыя.
Не арлы наляцелі, не сокалы
З неба яснага, з неба высокага...

Не пыталі, ці зжата, ці скошана,
Ці хоць дзве засталіся гарошыны.

Не пыталі, ці ў пору пасеяна,
Ці ў гумно хоць прывезена сеніна.

Засталіся пяць пар вочкаў сіненькіх,
Засталіся чакаці на выніку.
Ды шумела палоска калоссямі
Да глыбокае познае восені.

*1938*

## НОЧЧУ

Зорныя стрэлы
У нетрах балотаў
Меддзю сустрэлі
Туманную слоту.

Ціха гарэлі
Аўсяныя росы
На акварэлі —
Сярэбраны россып.

Рэха няслося,
Звінела па лесе.
Спуджаным лосем
Пеніўся месяц.

Нешта ж гавораць
Аб будучай долі
Шэлесты зораў
Ды з росамі ў полі.

*1937*

## ЗАЛАЦІЛАСЯ РАНІЦА

Залацілася раніца ападаючым шэлестам —
Вецер лістам іржавым дарогі прыслаў,
Каб не бачылі мы, як зара занялася там,
Восень дробна імглу над зямлёй растрасла.

І ў далі патухала рабінавым полымем
Нашых бедных палёў набалелая сінь.
Гэтак ніклі ў туман дні жыцця невясёлыя
Паміж соснаў зялёных і голых асін.

Мо прыйдзецца зіму сустракаць
не за комінам,
Хмары воўкам кудлатым плывуць
з-за Карпат.
Біяграфія наша яшчэ не запоўнена
Ў звоне цяжкага молата, звоне сярпа.

*1938*

## ЦІ ТО ПЕСНІ!

Ці то песні ў пазалоце
На аўсянішчы густым?
Ці то вецер гай малоціць,
Меддзю злітыя кусты?
Ці то з шумам адцвітання
Сэрца збуджаны парыў
Запаліў зарою ранне
Да вячэрняе зары?
Ці то ў сонечным прасторы
Сокал хмары варушыў?
Ці то радасць, ці то гора
Накіпела на душы?

*1938*

## ВОСЕНЬ

Разляцелася звонам,
Медным лістам з асінаў,
На вынослівых клёнах
Залаціла чупрыны.

Я і сам не паверыў,
Што наскочыла восень.
І вось тут на паперы
Шапацеў бы калоссем.

Эх, імглістая восень,
Не цябе я засватаў!
Ты ж з ваўкамі між сосен
Прыпляцешся пад хату.

Хоць засыплюць завеі
Небагаты набытак,
Прыйдзе час, пазаве ён
На апошнюю бітву.

*1937*

* * *

Ізноў ліюцца песні, песні...
Узварушы запас крыніц,
Што узнімаюцца з-пад плесні,
І ў сэрцы струны закрані.

Прыйдзе да лепшае пары,—
На скамянелым, жоўтым твары
Адчуе радасць і парыў,
Калі не я, то мой таварыш.

А колькі будзе дзён харошых!
(І іх нічым не замяніць.)
Дарогай польнаю, зарослай
Іду я ў гушчу камяніц —

У Беласток, старую Вільню,
На бляск — сігнальныя агні,
Якіх не зможа дым кадзільняў
Ад хлебаробаў засланіць.

*1937*

## ЗБУДЖАНЫ ВЕРШ

Мы не плакалі ў школе, як ціснуў мароз.
Сёння мутнае неба не хоча звінець.
На дарозе ў сустрэчным паходзе бяроз
Ланцугамі звінеў я ў тваёй старане.

За імглою імгла налятала не раз,
І плывуць туды думкі за хвалямі зноў.
Пячэ сэрца ўспамінамі збуджаны верш,
Хоць ляжу на халоднай зямлі між жытоў.

*1938*

## З ПЕСНЯЙ

Наша добрая песня
Дае сілы прыліў.
Гляньце — смелыя весляць,
Паплылі, паплылі.

Хай сягоння мы гнемся,
Ды не ломімся ўсе.
Узышоў, зарунеўся
Маладняцкі засеў.

Нам ісці па дарозе,
Што палын заглушыў.
З песняй мы пабарознім
Камяністую шыр.

*1938*

## НА БРУКУ

Штось закралася ў душу — не знаю,—
Мо трывога за лёс нашых сёл.
Шэрай восенню з песняй па краю
Я іду, каб аддаць ёй усё.

Беларусь!.. Не, не будзеш ніколі
Па-за межамі з торбай хадзіць,
Бо на ўсход з-за густых частаколаў
З захапленнем, надзеяй глядзіш.

Ноччу зоркі рассеяны густа
І праразжуць туманаў плыты.
І вясной ураджай з нашых пустак,
Будзем жаць ураджай залаты.

Прыйдзе радасць, як дзень пасля ночы,
Звон народны разбудзіць ад сну.
Будзем верыць і будзем прарочыць,
Спатыкаючы нашу вясну.

*1938*



*З кнігі*

# «З ПРОЙДЗЕНЫХ ДАРОГ»

*(1970)*

## ДРУГУ ЮНАЦТВА

Праз лес ідзе то моцны гул,
То цішыня нямая.
Дарыць я кнігу не магу.
Чаму? Яшчэ не маю.

Знаёмы мне дарогі, гаць
І ціхі гоман клёнаў.
Мне даручылі вартаваць
Радзімы шум зялёны.

Мінаю гладкую шашу,
Іду паміж снапамі.
А пакуль кнігу напішу —
Шлю верш табе на памяць.

*1962*

## СЛЕД РУКІ

Зямлю спацелую накрыла
Начная стома. Цішыня.
А я ляцеў яшчэ на крылах
Туды — за водбліскамі дня.

Яшчэ віднеўся лес, як прасла,
Ледзь-ледзь ружовы небасхіл.
І толькі думка ўсё не гасла
Пра новы ўзлёт юнацкіх крыл.

Хоць чалавек у вечнасць кане,
Але пакіне след рукі.
Хачу, каб нашае спатканне
Пайшло за думкай — у вякі.

*1962*

## ПЕРШАМАЙСКІ РАНАК

Даль адкрываецца насцеж —
І на душы весялей.
Сцяг падымаеш — і шчасце
Ходзіць з табой па сяле.
Глянеш на прозалаць сонца,
Глянеш на прозелень ніў —
Шлеш пацалунак сасонцы,
Нізкі паклон — шырыні.

*1962*

## МАЛЮСЯ Я

За маладым зялёным гаем
Бяжыць сцяжынка па траве.
А над сцяжынкаю мільгае
Блакітнай безданню Сусвет.

Зіхцяць на стужцы ў звоне рацый
Далёкіх пазыўных сляды,
Сляды упартай, мужнай працы —
Працяжнік, кропка — як гады.

А мы жывём не так далёка,
Зусім без сувязі, без слоў...
Малюся я, каб пасму к зоркам
З акна ў Сусвет не занясло.

*1962*

## ШЧАСЦЕ

Плыву я па Шчары
Ці стану на камень,
Мне просіцца ў душу
Прастор-шырыня.
Ды шчасце не ўзяць мне
Сваімі рукамі,
Як папараць-кветку,
Як пробліскі дня.

Аднак я шчаслівы
Як, можа, ніколі.
Мне вецер прыносіць
Густы цветабой.
Гарачае сэрца
На родным прыволлі,

Радзіма, заўсёды
Напоўню табой.

І шчасце кругамі
Расходзіцца шырай.
У клетку яго
Не пасадзіць ніхто.
Маланкай імчыцца
На ТУ-104,
А часам дарогай
Ідзе пехатой.

А нашы дарогі!
Ім хіліцца збожжа
І коса кладзецца
Бярозавы цень.
Ці хочаш, ці не,
А цябе заварожыць,
Калі Беларусь
Майскай кветкай цвіце.

*1962*

## КАСЬБА

Навакол трывожны шум,
Пякуць сэрца раны.
З ранку самага кашу
Не сабе, а пану.

Эх, калі пачнуць звінець
Косы звонка ў сёлах?..
Разлівае чырвань-медзь
Свежым раннем золак.

*1936*

## ВЁСКА

Разляглася вёска
Хатамі у рад.
Дзе-нідзе бярозка
Блісне паміж хат.

Сонца лье без ласкі
Вогненную плынь.
Жудасную казку
Шапаціць палын.

А ў сялянскіх хатах
Хлеб як рэдкі госць.
Ў далях сінsocватых
Лес шуміць чагось.

*1933*

## ЗА ВАРШТАТАМ

Гэй, пілуй хутчэй, падпілак!
Мацней стукай, малаток!
У мяне сягоння — сіла
І бадзёрасці паток.

Я не знаю соннай зморы
І не маю чорных дум,
Бо ў грудзях бушуе мора,
Гоніць прэч нуду і сум.

Шасцярня за шасцярнёю
Барацьбы спяваюць гімн —
Мае думкі, мае мроі
Над варштатам — не сваім.

Я — працоўны, дык працоўным
Я кую шчаслівы лёс.
Малады і жыцця поўны,
Слаўлю я блакіт нябёс.

*1934*

## НА ЭТАПНАЙ ДАРОЗЕ

Думкай даль авеяна
Над жытнёвай ніваю.
Я пытаю: дзе яны,
Тыя дні шчаслівыя?

Пагражаюць кратамі,
Мае рукі звязаны.
Развітацца з хатамі
Шчыра абавязан я.

Вочы сінь паклікала
Ўвысь падняцца сокалам —
Шырыня вялікая,
Шырыня навокала.

Песня там пасеяна —
Чую пералівы я...
Зноў пытаю: дзе яны,
Тыя дні шчаслівыя?

І сярпом і молатам
Шчасце звоніць весела,
Дзе ў краіне волатаў
Волі сцяг павесілі.

*1936*

## МАЯ ПЕСНЯ

Эх, песня мая вольная,
З табой яснейшы дзень,
Хоць ты і з падняволеных,
Прыцiснутых грудзей!

Хоць ты сягоння складзена —
Заўсёды у душы,
Імкнеш часінай згаданай
У зорыстую шыр.

У кузні звоніш молатам,
Гартуеш просты люд.
І сыпле сонца золатам
На шэрую зямлю.

І дні жыцця калючыя
Зразорылі мне твар.
Не толькі я — замучана
Працоўная братва.

Але іскрацца вочы іх
Ў змаганні і агні:
Сяляне і рабочыя
Запаляць сонца дні.

Чаму ж змаганню палкаму
Не скласці сёння гімн?
Над Вільняй, над Сувалкамі
Развесім мы сцягі.

З бадзёрай песняй новаю
Працоўныя рады
Ідуць і заваёўваюць
Заводы, гарады.

*1936*

## ВЕРАСЕНЬ

Серабрыстая нітка —
Павуціна плыве.
Нехта прозалаць выткаў
Па зялёнай канве.

Гэта верасень сёння
Пахадзіў па лістах,
Пераскочыў сасоннік,
Нібы кнігу лістаў.

На раскрытай старонцы
Размалёўваў дубы,
Перад захадам сонца
У мох рассыпаў грыбы.

Пах антонавак свежых...
«А хто лета забраў?» —
Лось бяжыць ў Белавежу
Распытаць у зубра.

Мы сарвалі ўсе ружы,
Сумна ў полі пустым.
Не сумуй, лясны дружа,
Прыйдзеш — сена дадзім.

*1963*

## Я ВЫЙДУ У ПОЛЕ РАНА

Агнём сплываюць раны
З маёй душы сягоння...
Я выйду ў поле рана,
Дзе ветры хмары гоняць.

Другі раз восень лістам
Асыпала загоны...
Я помню, як калісь там
Жыццё званіла звонам.

Я помню... Усё мінула.
Ды вернецца, напэўна,
Ізноў вясёлым гулам
І з песняй звонкаспеўнай!

Бо мы ідзём няўхільна
У бітвы агнявыя.
Над пропасцю магільнай
Хай вораг дзіка вые.

*1942*

## ПАРТЫЗАНЫ-КАМСАМОЛЬЦЫ

Пад сховамі чорнае ночы,
У праблісках яснага дня
Яны, непахісныя, крочаць —
І я пазнаю арлянят.

Па тым, як ляцяць пад адхоны
Захопніцкія паязды,
Як ворагаў у гарнізонах
Ахутвае полымя-дым.

Па ёй толькі ведамых тропах
Пайшла Беларусь у лясы.
Няпрошаных з «новай» Еўропы
Частуе і бацька і сын.

Галоўная прыйдзе расплата,
Падлічым затрачаны час.

Збудуем і школы і хаты,
Запалім агні Ільча.

А сёння пад сховамі ночы,
У праблісках яснага дня
Яны усё крочаць і крочаць —
І я пазнаю арлянят.

*1943*

## ЛІСТ У НЯМЕЧЧЫНУ

Марозам траскучым па хвоях
Наступная прыйдзе зіма.
Ці чуў ты, таварыш, пра тое,
Што нашае вёскі няма?

Фашысты яе падпалілі,
Пабілі малых і старых.
Чарнеюць курганы-магілы
Усюды — ў палях і ў бары.

Увесь мазалісты прыбытак
Аграбілі немцы ўвясну.
Варожаю куляй прабіты,
Твой бацька навекі заснуў.

Пішы, як жывецца ў няволі...
Заводы і склады палі...
А сэрца, налітае болем,
Няхай па Радзіме баліць.

*1943*

## АГАНЁК

Хата схілена, забыта
Ў шуме палыну.
Запрацованы здабытак
Вораг праглынуў.

І за лесам, і за садам,
На глухой шашы
Партызанская засада —
Не мінеш, фашыст!

А як лёгкі стук у дзверы —
Гасне аганёк.
Хоць не бачыць, але верыць,
Хто ідзе здалёк.

Заўтра сонца рана ўстане,
Высахне раса.
А як вечар — зноў туманам
Ляжа паласа.

Аганёк у цьмянай шыбе...
І шляхі, шляхі...
Беларускі край — пагібель
Ворагам ліхім.

*1943*



## ПРЫЛЯЦЕЛІ СНЕГІРЫ

Я пайшоў бы ўслед за летам,
Але край застаўся тут,
Дзе я ласкаю сагрэты,
Дзе лугі вясной цвітуць.

У чырвоных фарбах восень.
Што ж — і гэта ёсць краса:
Паміж сосен — неба просінь,
Пах мядовы ў верасах.

Па сваіх іду дарожках —
Партызанскіх, дарагіх.
Вось знаёмая бярозка,
Ціхай рэчкі берагі.

Колькі тут крыві праліта!
Сенажаці і палі.
Наша воля, працавітасць
Зробяць шчасце на зямлі.

Вось і снег упаў абрусам,
А усё наўкол гарыць.
Па рабінавыя бусы
Прыляцелі снегіры.

*1964*

## САСНА

Ўсё вышай,
і вышай,
і вышай!
Радкі бярэ з песні сасна.
Цяпер ёй чупрыну калыша
І сілу дае ёй вясна.

Дзе сонца разбілася ў росах
(Мінае за годам гадок),
Збірае сасна гэты россып,
Ізноў бярэ з песні радок.

А потым пахучай жывіцай
Той россып сцякае з сасны...
І як тут, скажы, не дзівіцца
І светлыя мары не сніць!

Нікім не разбуджана ціша.
Сасне і цяпер не да сну —
Ўсё вышай,
                і вышай,
                                і вышай!
І часу не знойдзе заснуць.

*1964*

## ЖУРАЎЛІ

На дарогі і рэчкі
Восень кідала цень.
І бярозы, як свечкі,
Дагаралі ўвесь дзень.

У нябёсах — як стрэлы —
Жураўлі,
                жураўлі,
Што знянацку сустрэлі
І праз сэрца прайшлі.

Паляцелі далёка.
Я іх смутак адчуў.
Ах, той жаласны клёкат,—
Быццам сам я лячу.

І пад крык жураўліны,
Што асеў на лясы,

Сумавалі яліны,
Сумавалі ласі.

І чаго я не маю —
І палі і бары!
Нават поўнач нямая
Ў яркіх зорах гарыць.

Мне і сонца пасвеціць
Праз асінавы шум.
І хаджу я па свеце,
Сум і радасць нашу.

*1962*

## ПАЭЗІЯ

Лясная даль —
сасонніқі,
Трава —
званочкі сінія.
На небе з ясным сонейкам
Ляжаць шляхі гусіныя.
Сарваны з плота весніцы,
І вецер вые ў коміне.
А ты, мая равесніца,
Пра радасць мне напомніла.
Што ж, гавары аб радасці —
Калі дамоў хто вернецца.
І я наперад рад ісці,
Бо ў будучыню верыцца.
І ў полымя палезу я
Супроць любога ворага,
І ты са мной, паэзія,—
Вось гэта мне і дорага.

Ідзём насустрач сонейку,
Памераемся сілаю...
Сасонніки, сасонніки
З зялёнай парусінаю!

*1962*

## УНУЧКА РЫБАКА

Садзіцца з сонцам рана ў лодку,
Прыначку з клумка дастае.
Вакол разносіць пах салодкі
Вяслом закрануты аер.

Дзесь у чаротах плюхне качка,
Па лозах пройдзе вецярок...
Ты задаволена, рыбачка,—
Зрабіла першы ў працы крок.

Гуляюць хмаркі ў небе сінім,
І ледзь хвалюецца рака...
Так моцна хочацца дзяўчыне
Адведаць шчасце рыбака.

*1959*

## СПАРЫШЫ

Поле ўкрыта снапамі
Залатымі, як восень.
І бяру я на памяць
Спарышовы калосік.

Я нясу асцярожна
Гэты здвоены колас,
А шурпатая пожня
Ногі босыя коле.

Ну і як тут не верыць:
Спарышы — гэта шчасце.
І ў дзень заўтрашні дзверы
Адчыняю я насцеж.

*1959*

## СЛОНІМ — МОЙ РОДНЫ ГОРАД

Мной перажытае гора
Памяць мая беражэ.
Слонім, мой родны горад,
Ты мне за ўсё даражэй.

Ціхія воды Шчары,
Песні гарачы парыў.
Хто ў барацьбе не марыў
Аб шчасці мірнай пары!

Свяцяцца зоры ярка,
У вокнах ярчэй — агні.
Будзе ў дамах і ў парках
Вечная радасць званіць.

Хай перажытае гора
Памяць мая беражэ.
Слонім, мой родны горад,
Ты мне за ўсё прыгажэй.

*1960*

## ТРЫ САСНЫ

На мурамскай дарожцы
Стаялі тры сасны...
*З народнай песні*

Адкідаю прасла весніц —
І адразу не адзін:
Тры сасны з далёкай песні,
Не, не з песні, паглядзі!

Ля дарожкі, дзе імгліцца
Маладосці далячынь,
Адчуваю, як ігліца
Села ціха на плячы.

Удыхаю водар смольны,
Пах ядлоўцавых кустоў.
У сэрца просіцца няўмольна
Рэха дзён трывожных зноў...

Мокнуць ногі ў росных травах.
Мне здаецца: вунь будан!..
Я ў тваёй цішы, застава,
Зноў стаю, бы партызан.

Хай бягуць няспынным цягам
Дні і ночы, нашы сны.
Паўтарыць хачу прысягу,
Вось і сведкі — тры сасны.

*1964*

## ЛЯСНАЯ ІДЫЛІЯ

Вецер прайшоўся па соснах —
Па клавішах залатых.
І ловіш той звон дзівосны
Задумы і дабраты.

Лес — гаспадар, прыяцель
Звяроў і птушак лясных.
Слухаеш — стукае дзяцел,
Кідае шышкі з сасны.

І што тут дзівіцца: родам
Я з гэтых лясных мясцін.
І гоман люблю, і водар,
І шум маладых ялін.

*1960*

## БЛАКІТНАЯ ХУСЦІНКА

Гармонік доўга цінкаў
На тонкіх галасах.
Блакітная хусцінка
І чорная каса.

І сіні летні вечар,
Туман, як белы дым.
Аб долі чалавечай
Не думаў я тады.

Ці шчасця быў пачатак —
Таксама не скажу.
А ноч на лес зубчаты
Накінула кажух.

*1962*

## ГЛЯДЖУ НА ЛЕС

*Памяці жонкі,*
*замучанай фашыстамі*

Далёкі лес — зялёны грэбень,
І пасмы хмарак залатых
На ранішнім прыгожым небе,—
І ўсё глядзіш на золак ты.

Такою я цябе запомніў,
Такою ты тады была.
Нібы сама з тых яркіх промняў
Сягоння да мяне прыйшла.

А я стаю ўсё на паверцы
Як верны друг твой, як салдат.
Заўжды ў маім збалелым сэрцы
Гарыць агонь падзей і дат.

*1949*

## ПАРТЫЗАНСКІЯ ПРАСТОРЫ

Прад вачыма, нібы з казкі,—
Невялікі наш будан.
Колькі ён суровай ласкі
Мне на памяць перадаў.

Помню жудасныя ночы,
У агні пушчанскі шлях.
А мне снілася, што крочыш
Ты са мною па лясах.

Ўсе дарогі навакола
Я гатоў ізноў прайсці,

Каб пачуць твой звонкі голас
Там, дзе лісце шалясціць.

Многа сіл дала Радзіма,
Каб змагацца і любіць.
Тыя ж сосны —
прад вачыма,
І ніяк іх не забыць.

*1957*

## ЛІСТКІ КАЛЕНДАРА

Як толькі з хаты выйду я —
Насустрач мне зара.
Штодзень на вецер кідаю
Лісткі календара.

І толькі той не страчаны,
Што да цябе вядзе.
Пачуццямі гарачымі
Асветлен гэты дзень.

Чакаю год наступны я,
Зрываючы лісткі.
А ты ўсё недаступная...
Зара гэта ці ты?

*1957*

## МОСЦІК

Пералескі радзімы,
Рэчка, ціхі аер.
Тых мясцін, што прайшлі мы,
Не пазнаеш цяпер.

Помню мосцік. Прыселі.
Што ні слова — агонь.
Пасля ў горад з аселіц
Перайшлі праз яго.

Мосцік той ля крыніцы
Я ж ніяк не міну,
Еду — мушу спыніцца
Хоць на пару мінут.

П'ю ваду, як прычасце,
Дарагая мая.
Тут свабоду і шчасце
Здабывалі ў баях.

*1957*

## У РОДНАЙ ВЕСЦЫ

Калі я з хаты выйду рана —
Шумяць чырвоныя сцягі.
Перада мною светлы ранак —
Такі прыгожы, дарагі!

І трактарыст на родным полі,
Нібы на танку едзе ў бой.
Не разлучуся я ніколі
З сялянскай дружнай грамадой.

4 Зак. 2273

Я пагляджу ізноў з узгорка,
Як спее жыта на палях.
І ведаю, што долі горкай
Не ўбачыць вёска Новы Шлях.

*1950*

* * *

...Перамога! Перамога!
Абіваем з ботаў пыл.
І на пройдзеных дарогах
Ставім новыя слупы.

Вецер гутарыць з ліствою,
Ад кастра адносіць дым.
А слупы ўсе пахнуць хвояй,
Нашым лесам маладым.

*1948*

## ГАРАДЫ, ІГРАЙЦЕ ПЕРАКЛІЧКУ!

Мы дратоў парвалі павуцінне,
Разламалі краты на акне.
На шырокі выйшаўшы гасцінец,
Адчуваю — ўсё цяпер пры мне.

Прада мной цудоўны край, шырокі,
З безбярэжжам неба і палёў!
Толькі скінуць трэба ўсе абломкі,
Вырваць з коранем асот-быллё.

Што ні год — бліжэй да камунізма.
Болей працы, болей пачуцця!
Нашай светлай будучыні блізкай
Мы ўзнялі вышэй чырвоны сцяг.

Гарады, іграйце пераклічку,
Услаўляйце ясную зару
І да шчасця вёску нашу клічце,
Як сваю малодшую сястру.

*1948*

## МОЙ ГОРАД

Мой горад па завулках
Рассыпаўся ў бакі.
Смяецца рэхам гулка
Ў даліне ля ракі.

Яго вясна сустрэла
Ў расквечаных садах.
Наўкол памаладзелай
Звініць, сінее даль.

А вецер набягае
З ваколіцаў лясных,
І пахне свежым гаем,
Жывіцаю сасны.

Жыцця і песень творцы,
Будуем горад мы.
Ўзнімаюцца пад сонца
Дамы,
дамы,
дамы.

*1957*

## ВАЛЯНЦІНУ ТАЎЛАЮ

Ты любіў такое хараство,
Каб жыццё кіпела ў родных хатах.
Бачыў часам неба ты праз ствол
Баявога друга аўтамата.

Сцягу нашаму шумець вякі
І звінець тваім крыштальным вершам,
Бо праносіў сцяг ты напрасткі,
У паходзе быў заўсёды першым.

Зноў гарыць у памяці Мадрыд,
Аб якім ты сніў тады на нарах...
Шчасце стрэўшы, плакалі наўзрыд
Вераснёвым ранкам Буг і Нарач.

Ўспомнім тых, каго між нас няма,
Хто загінуў, ды не здрадзіў справе.
Будзем вечна славіць Першамай
І Кастрычнік вечна будзем славіць.

*1957*

* * *

Праз чаромху ўрываецца ў сені
Вецярка гаркаватая плынь.
І здаецца, што ходзіць Ясенін
І збівае нагамі палын.

Мне б хоць раз пабываць у Разані,
У надрэчных прасторах балот!
Я ў лясах ля Ружан партызаніў,
Каб заўжды яго слова жыло.

*1957*

## У ЛЕСЕ

Ходзіць рэха па лесе
І знікае паволі.
Нехта шышкі развесіў
На ялінавым голлі.

Ты праходзіш палянай,
Дзе сунічная россып,
Баравік часам гляне
Праз імшаныя росы.

Ты з вавёркаю дружыш,
Не пакрыўдзіш казулю,
Хоць асцём сваім ружа
Працінае кашулю.

На мурог ляжаш ніцма —
Ўсе загояцца раны.
Напаўняе жывіца
Церпкім водарам ранак.

Потым выйдзеш з-пад кронаў
На узлескавы ўзгорак,
На шляху ўбачыш — клёны
Прабіраюцца ў горад.

*1960*

* * *

Адшумеў прастор калоссем,
І туман паплыў імглісты.
Мне здаецца,
                                гэта восень
Асядае мокрым лістам.

А так хочацца блакіту —
Неба чыстага кавалак,
Вось такога,
як адбітак,
Што ў вачах ты захавала.

*1961*

## НА КАЛГАСНЫМ ПОЛІ

На калгасным полі
Жыта я ўбірала.
Што кахаю моцна —
І сама не знала.

Мне было прыемна
Бачыць, як камбайнам
Ён пшаніцу косіць
Акуратна, дбайна.

Мне было прыемна
Пасля дзённай працы
Пасядзець з ім поруч
У цяньку акацый.

Мы не раз аб шчасці
Шчыра гаварылі.
І ў мяне, здаецца,
Выраслі крыллі.

Вечарам аднойчы
У калгасным клубе
Ён руку пацiснуў
І сказаў, што любіць...

З той пары чамусьці
Страціла спакой я.
Ўсе вакол пытаюць,
Што са мной такое?

*1960*

## КЛЮЧЫК СІНІ

За дарогай за шырокай
Лесу вымытая сінь.
Песня ходзіць адзінока
І губляе галасы.

Адгукаецца ёй шчыра
Ўся лясная далячынь
І пад зорным небам шырай
Разліваецца ўначы.

Хто не быў у лесе —
казка.
Толькі ўстанеш на зары
І пачуеш: калі ласка,
Пад зялёныя шатры!

Напішы пра даль лясную,
Дзе ступаў калісьці ты,
Напішы, што там пануе
Мора кветак залатых.

Ходзіць месяц...
Жоўты ключык
Расцвітае ў лоне траў
Ля ядлоўцавых калючак,
Дзе спрадвеку расцвітаў.

Кажуць людзі, ключык сіні
Зможа шчасце перадаць.
І шукай па ўсёй даліне,
Калясі лясную даль.

*

Даль бясконцая лясная.
Колькі сонца у бары!
Што рабіць мне з ім — не знаю,
Хоць за пазуху бяры.

Награваецца — і вышай
Абтрасаць ідзе расу.
Я ж яму насустрач выйшаў,
Трэба — далей панясу.

Панясу туды, дзе крочаць
Ад сасны і да сасны
Пара ясных сініх вочак —
Сімвал ранняе вясны.

Растапіць яны гатовы
Ў чэрствым сэрцы нават лёд...
Ну, а бровы —
то не бровы,
Стрэлы вострыя ўразлёт.

Прыадкрытыя ледзь вусны,
Хвалі косаў —
чорны шоўк...
Мо хто скажа, для спакусы
Зранку я сюды прыйшоў?

Я люблю вясну, і жарты,
І ў вачах бяздоння сінь.
Ды адкуль бярэцца жар той
З-пад навіслае касы?

І адкуль такая ўсмешка?
Заваражыць — толькі глянь.
Эх ты, бор! Лясная сцежка!
Ты да сэрца пралягла.

*1960*

## ВЕРА

О лета, цудоўнае лета!
Зару даганяе зара.
І песень птушыных і кветак
Набраць не магу я за раз.

Спачатку іду я сцяжынкай,
Рамонкі між пальцаў лаўлю...
Сустрэць бы ў блакітнай хусцінцы,
Якой не сказаў я «люблю».

А потым саджуся пад клёнам —
Хай скачуць навокал дразды...
Праносяцца віхрам шалёным
Аўтобусы ці паязды.

Падпальвала восень асіны —
Здаецца, і ты на агні.
А тут яшчэ крыкам гусіным,
Як ніткай, прастрочаны дні.

Жывыя малюнкі, эскізы!
Іх буду да смерці нясці:
Прырода, як песня, без візы
Па ўсім маім ходзіць жыцці.

Хадзіў я на штурмы фарпостаў,
Скідаў пад адхон цягнікі.

А тут невялікая постаць
На момант зрабіла нікім.

Вядома, і гэты выпадак
Не кіне бязлітасна ніц —
Я буду схіляцца і падаць
Прад люстрам гаючых крыніц.

Удосталь нап'юся і ўстану,
Лясную прайду далячынь.
А ты, невялікі паўстанак,
Усе цягнікі палічы.

Лаві тэлеграмы і пісьмы,
Глядзі у абодва бакі.
І ведай: не толькі калісь мы —
Заўсёды з табой землякі.

Заўсёды падзелімся весткай,
Пагладзім патоптаны жвір.
Жыві за лясной занавескай,
Заўсёды шчасліва жыві!

О лета, цудоўнае лета!
Зару даганяе зара.
І песень птушыных і кветак
Набраць я прыйду яшчэ раз.

*1960*

# ПАЭМА ПРА КАМСАМОЛЬЦА ВАЛОДЗЮ БЯЛЬКО

Добра па-над возерам
Птушцы салаўю...
Цягнікі ж развозілі
Маладосць маю.

Шлях мой ад Мяльканавіч
Аж да Вільні лёг.
Дні ў бяздонне канулі,
Зараслі быллём.

Зіхацелі росамі
Травы для каго?
Сталі мы дарослымі
Ў чатырнаццаць год.

Нізка хмары лазілі
Па густым аўсе.
Дзверы мне ў гімназію
Зачынілі ўсе.

— А чаму? — пытаюся.
Кажуць: — Бальшавік.
Можа, ты пакаешся?
— Не! Я не прывык!

Вось іду і думаю
Пра нягладкі лёс.
Вецер жменю дум маіх
Кінуў на быллё.

А што камсамолец я,
То важней за ўсё!
Родная ваколіца
Мой развее сон.

І цяпер не поўзаем —
Ў нас такая кроў!
Ганарымся доляю
Стойкіх змагароў.

Ў нас замнога шчырасці,
І не будзем ныць.
Дайце толькі вырасці,
Подлыя паны!

Мы ў змаганні выстаім,
Чорт вас пабяры!
А зара агністая
Ходзіць па бары.

Бачыць хачу вольнаю
Беларусь маю!
Нават кветкі польныя
Мне аб тым пяюць.

Адкідаю чорныя
Думкі ад сябе:
Не, мы не пакорныя,
Свой не спынім бег!

Можа, па-над возерам
Добра салаўю.
А паны вывозілі
Маладосць маю.



Прыціхлая вёска,
Прасвету няма.
І зоры як з воску,
І ўсюды зіма.

У ночы такія
Ідзе дзед-мароз
З таўшчэразным кіем,
Што з лесу прынёс.

З далёкай краіны
Ён кніжкі нясе,
Дзе золатам сінім
Блішчыць Енісей,

Дзе Красная плошча,
Хвалюючы гімн,
Дзе вецер палошча
На сонцы сцягі.

Салодкія мары
Авеяны сном.
Давай жа, таварыш,
Мы кола крутнём,

Каб ворагі палі,
Канаючы, ніц!
Над светам запалім
Мільёны зарніц!..

Бялюткая вата
Ляжыць на страсе.
І спіць сабе хата,
Ды спяць там не ўсе.

Хадзілі і ходзяць
Пад кронамі ліп
Рэдактар Валодзя,
Намеснік Пілiп...

«Запалім над светам
Мільёны зарніц!»
Зірні на газету,
Таварыш, зірні!

І свецяцца вочы —
Гатоў «Піянер»!
Апошні лісточак!
— Выразны ці не?

— Выразны, выразны...
Каб толькі былі...
І клямкаю бразнуў
Маркевіч Піліп...

Ад вёскі да вёскі
Хадзілі лісты
Пад зорамі з воску,
У тумане густым.

І вось секвестратар
Ляціць за парог,
Няўдалы аматар
На сала, пірог.

Глядзіш навакола:
Народ устае
За родную школу,
За справы свае.

Глядзіш — і над краем
Чырвоны наш сцяг
Душу пакарае,
Як сімвал жыцця.

І буйныя ветры
Калышуць яго
Над нашай планетай,
Як праўды агонь...

Нябачна, як струны,
Гудуць правады.
Не спіць пастарунак
Пад небам рудым.

Снуюць паліцаі
З пакоя ў пакой.
І старшы ў адчаі
Махае рукой:

— Нам многа работы...
Прашу прывыкаць! —
І ўдарыў ён ботам
У твар юнака.

Не плакаў Валодзя,
Ён рваўся ў палі,
Дзе сонца на ўсходзе
За кронамі ліп.

І думка ляцела
Да хатаў крывых,
А збітае цела
Ляжала ў крыві.

*

Плыве сонца без вясла.
Неба — мора сіняе.
Што вясна нам прынясла
З крыкамі гусінымі?

Хто званочкамі званіў,
Тонкімі, блакітнымі,
Над прасторам родных ніў,
Ў лузе над ракітамі?

Ўзяць паэзіі уцёс
З баявымі вершамі!
Ды, здаецца, праз жыццё
Мой паход завершаны.

— Оля, сшытак мой вазьмі,
Захавай для памяці...

Расцвітаць будзе язмін
У вішнёвай замеці.

Паляцеў бы й я ўгару
За гусіным выраем.
Эх ты, рунь, зялёна рунь,
Нашы песні шчырыя!

Не хадзіць, напэўна, мне
Сцежкамі, балотамі
Па радзімай старане
З ранняй пазалотаю.

А так хочацца ізноў
Пырснуць зернем-золатам
І прайсціся баразной
Хлебаробам-волатам.

А так хочацца яшчэ
На сасну на стромкую,
Дзе вясна кілімы тчэ
І ў цымбалы тромкае.

Зноў бы там павесіў я
Палатно агністае.
Беларусь, як той маяк,
Перад бурай выстаіць!..

Дзверы скрыпнулі.
Чарга
Летуценняў збілася.
Перш вінтоўка-качарга
Праз парог ўвалілася.

Потым сунуцца яны.
Не пытаюць — можна ім.
Называюцца паны,
Ды яшчэ вяльможныя.

— Цо, не здыха камсамол? —
Хлопца б'юць прыкладамі.—
— На спектакль прасіў дазвол
Перад панскай уладаю?

Як лістоўкі раскідаць,
То паноў не бачылі?
— Праваліцца б вам, брыда,
Вылюдкі сабачыя!

Кат Бяжынскі зноў зароў,
Зноў прыклады ляскалі.
Палілася з горла кроў
Перад панскай «ласкаю».

Паплылі кругі ў вачах
Рознакаляровыя.
Толькі колер кумача
У сэрцы замураваны...

Першамайская пара —
Песня ўдаль пакоціцца...
Камсамольцу паміраць
Вельмі ўжо не хочацца.

Вусны шэпчуць, просяць піць.
Сілы перасілены.
Ой, не чуе маці, спіць,
Спіць пад крыжам схіленым.

— Оля, мілая, скажы,
Ці наш сцяг хвалюецца?
— Даражэнькі, паляжы,
Паліцай на вуліцы...

З рук лазовыя каткі
На падушку сцелюцца...
Добра з любым напрасткі
Выйсці за аселіцу.

5 Зак. 2273

Далей,
далей па мяжы
Ў поле неабдымнае.
Хто са мною пабяжыць
Ў далі сіня-дымныя,

Дзе вясёлка цераз край
Мостам перакінута?..
Эх ты, мой цудоўны май,
Што ты мне пакінуў там?..

Пацямнелі ўжо кругі
Рознакаляровыя.
Пакідаю дарагіх...
Будзьце ўсе здаровыя...

Так загінула душа,
Маладая, чыстая...
Гэй, трымай раўнейшы шаг,
Маладосць агністая!

Наша сіла ў маладых,
Сіла непахісная!
Гэй, шчыльней, шчыльней рады,
Каго доля ціснула!

*

Па правадах,
Па радыё
І песні
І салют.
І заўтра нас парадуе
Працоўнай славай люд.
Цяпер дарога простая,
Шырокая —
ідзі!

Чырвоны шоўк выпроствае
Вятрыска-брыгадзір.

Пад гэтым сцягам сонечным
Прыемна дзетвары
Ў паходах,
песняй звонячы,
І марыць
І тварыць!

У казку ўсе паверылі —
Ляці да самых зор!
Такая піянерыя,
Касмічны кругазор!

Але і дні мінулыя,
Пагібель юнака
Ўзнялі і ўскалыхнулі іх,
Як бурная рака.

І вось пад сцягам сонечным
Замерлі, не дрыжаць.
А ў сэрцах, моцна звонячы,
Распальваецца жар.

Імя дружыне дадзена
Таварыша Бялько!
— А песня?
— Будзе складзена
Над Шчараю-ракой.

*1964*



# НОВЫЯ ВЕРШЫ

## ХАЙ КРОЧЫЦЬ БРАНЕЎСКІ!

Do Łodzi, Zagłębia, Warszawy
powrócę zawzięty, uparty...
Ja muszę... do kraju, do sprawy,
do mas, do roboty, do partii...

*Władysław Broniewski**

Хаджу я па Слоніме нашым,
А думка у Плоцк залятае,
Здаецца, Бранеўскі на маршы
І песня яго залатая.

Ўстае ён з-пад каменнай глыбы,
Жыццё пачынае другое.
І сэрцы людскія ўсё глыбей
Пранізвае слова тугое.

---

* У Лодзь, у Басейн, у Варшаву
вярнуся заўзяты, упарты...
Я мушу... у край і да справы,
да мас, да работы, да партыі...

*Уладзіслаў Бранеўскі*

Ён кліча сялян і рабочых
Ўмацоўваць працоўную справу,
Нідзе і ніколі не збочваць
З дарогі ні ўлева, ні ўправа.

Я веру: настане парадак,
Развеецца пыл рэакцыйны.
Хай крочыць Бранеўскі парадам
Па вуліцах польскай Айчыны!

*1981*

## ПАРОЛЬ

— Пароль?
— Лясная сцежка.
— Напрамак?
— Добры Бор.
Прыветлівая ўсмешка,
Настоены чабор.

Убок сышла, направа,
А я
стаю чагосьці.
Апроч ваеннай справы
Ў мяне і сэрца ёсць.

І кожны раз на ўзлессе
Бяру з сабой пароль.
Птушыных столькі песень
Вясенняю парой!

Былі баі,
Сустрэчы,

І патэфонны вальс,
І многа светлых рэчак...
Трансваль мая,
Трансваль...

*1962*

## НА СВІТАННІ

Яшчэ не высахлі расіны
На сасняку — кудлатых лапках,
Яшчэ на небе цёмна-сінім
Не паднялася сонца шапка;

Яшчэ і вецер не прачнуўся,
І не сагнуў ён стан бярозкам,
А ў думках я ізноў вярнуўся
Ў прастор палёў за Падароскам.

Ужо дваццаць два гады ў нябыце,
А прад вачыма помнік жалю:
З крыжамі танкі йдуць па жыце —
Яго ж тады зусім не жалі.

І нарастаў той гнеў народны
За спаленыя Мінск і Слонім:
Ад Оршы ўсталі аж да Гродна
Такія хлопцы, як Заслонаў.

Заўсёды вораг будзе біты,
Не піць яму з Дняпра і Нёмна...
Бліпчыць дарога — чорны бітум,
І лес абапал патаёмны...

І вось ізноў я гладжу жыта —
Сцяну тугую, нібы помнік.

А той пажар, а той адбітак
Кальнуў у сэрца, каб я помніў,

Што ёсць і танкі і гарматы,
Якім не месца на планеце.
Няхай працуе мірны атам,
Няхай нам сонца вечна свеціць!

## ПАЧАТАК ШЛЯХУ

Рачулка сіняя, як жыла,
Што набрыняла ад дажджу,
Заззяла срэбрам, не тужыла.
А я задуманы хаджу.

Хаджу па той сцяжынцы роснай,
Дзе поле жытняе ляжыць,
Дзе павучок раскінуў кросны
На дзвюх былінках на мяжы.

Дзе вецер дыхаў мокрым пылам
І пах, як зрэзаны качан.
Пад гэтым мяккім небасхілам
Калісьці шлях я свой пачаў:

Тым майскім ранкам у прыполе
Прынесла маці — у сяло.
І вось,
як выйду ў луг і ў поле,—
Яны бяруць мяне ў палон.

*1977*

## РОДНАМУ КРАЮ

Усё тут пяражыта:
Вайна і звон акоў.
На полі — жыта, жыта
З вачамі васількоў.

О край бацькоў, пацеш ты,
Дай кропель дажджавых,
Дазволь па роднай сцежцы
Ісці, пакуль жывы.

Кастрычнікам ці маем,
Як сонца, грэй, свяці.
А ўсё, што ў сэрцы маю,
Табе я прысвяціў.

*1977*

## АБЕЛІСКІ

Плыве спакой здалёк і зблізку:
Прыціхлы бор, суцішны крок.
І толькі зоркі з абеліскаў
Узрушаць мне душу і кроў.

Не патухае ў сэрцы рана
З тае далёкае пары,
Калі ўзарвалі бомбы ранак
І смех вясёлай дзетвары.

І вось стаю, былое ўпарта
Вяртае да тых дзён мяне.
І не сысці мне з мірнай варты,
Пакуль трывога не міне.

*1978*

* * *

Па-над Слонімам стыне
Неба — сіні плакат.
Я стаю на вяршыні,
Над вачамі — рука.

Сонца ўсходзіць за лесам —
Іскры пырскамі ўвысь.
З-за зялёнай завесы
Ўдаль плывуць паплавы.

Можа, полк з атаманам
Тую даль варушыў?
Ці палотны туманаў
Разыходзяцца ўшыр?

І блішчаць, нібы пікі
(Усё гляджу з-пад рукі),
Сонца сыплюцца блікі
На праталкі ракі.

Полк з уяўнасці, чараў
Адышоў пакрысе.
І адкрылася Шчара
Ў непаўторнай красе.

*1979*

## ПАЛЕСКАЯ БЕТОНКА

Разгарнулася тонка,
Як страла пралягла.
То дарога-бетонка
Дастае далягляд.

Па балоце, па лесе,
Дзе блукаў толькі лось,
Ажывіла Палессе
І лясное сяло.

І бягуць праз асіннік
«Масквічы», «Жыгулі»,
Аж пад небам пад сінім
Вецяркі загулі.

Восень жоўтая рэхам
Прысядала ў канцы.
Палюбуйся з арэхаў:
Бах ды бах лушчанцы.

Пацягнула знаёмым
Праз бензінны нагар —
Халадком вадаёмаў
І чым пах мой наган...

*1980*

## НАД КАРТАЙ РЭСПУБЛІКІ

Было, што свет з аўчыну
Рабіўся ў адзін міг...
Цяпер мы за айчыну
Наляжам не грудзьмі.

Мы, як адзін, на варце
Свяшчэнных рубяжоў.
І на зялёнай карце
Заслон стаіць ужо.

Там трактары грукочуць,
Камбайны лета жнуць.
І людзі ў нас не хочуць
Увязвацца ў вайну.

Заводы не змаўкаюць —
Ідзе бетон і сталь.
Работа ў нас такая,
Бо час такі настаў.

І нафта свішча ўгору,
І вырас Салігорск.
Здружылі вёска й горад —
Не будзе, значыць, горш.

*1980*

## ПЕСЕННЫ КРАЙ

Праходзяць леты, зімы,
А ў памяці — сляды.
Ці ж мог бы без Радзімы
Пражыць усе гады,

Якія лёс прызначыў
Як беззваротны дар?
Былі, былі і ўдачы,
Ды адляцелі ўдаль.

Таму і цягнуць далі,
Дзе сіненькі лясок
У шышках, бы ў медалях,
Пад сонца калясом.

Малюся за ільготы,
Што лес прываражыў.

Сярод яловых готык
Заўжды я не чужы.

Калі на сэрцы млосна,
Каб смутак не прыліп,
Ўдыхаю водар соснаў
І чую сіл прыліў.

На партызанскіх сцежках
Не знойдзеце залом —
Квітнее наша ўсмешка
Ўсім ворагам назло.

І не крадуся з лесу
На поле, як калісь,
Рассоўваю завесу —
Жывы, зялёны ліст.

А поле каласіцца
Да самае шашы.
Далей — блакітным сітцам
Цвіце льняная шыр.

Яе ніхто не засціць,
Не стопча нам траву.
Ізноў убачым шчасце —
Камбайны паплывуць.

Як камбайнёр рукою
Вазьме штурвал ямчэй,—
Бурштынавай ракою
Пшаніца пацячэ.

І новы хлеб, як сонца,
Мы пакладзём на стол.
Наш хлеб мацней за стронцый
Разоў, можа, у сто.

Бо што без хлеба значыць
Рабочы і паэт?
Хто з боханам гарачым,
Таму — шырокі свет.

Як добра: песня поруч
Са мной ідзе ў нагу.
Ёй адгукнецца з бору
Сасновы перагуд.

І радасць славіць будзе
Вясну, птушыны грай...
А як засну — разбудзіш,
О песенны мой край!

*1977*

## ЛЯСНЫ ПАКЛОН

Вятры сняжынкі ў полі гналі,
Працяжна вылі, бы знарок.
Навокал ноч. І мы не зналі,
Што здарыцца, як ступім крок.

Засады ў полі не чакалі —
У полі змерзне подлы гад.
Мароз мацнее, шчокі паліць,
Дранцвее, курчыцца нага.

Уперліся ў чыгункі насып —
Ні то ісці, ні то чакаць?
З фашыстам стрэліся сам-насам,
Ды нам не трэба «языка»...

Перамахнулі цераз рэйкі,
Як збоку кулямёт ажыў.
І працялі на момант нейкі
Хмызняк чырвоныя нажы.

І нібы свет згарнуў хтось жменяй
І сціснуў скроні да крыві.
Мы папаўзлі паміж каменняў
(Прымі падзяку, ледавік!).

І клікаў лес: хутчэй пад сховы,
У зелень кронаў — церпкі пах.
Ізноў я той хлапчук вясковы,
Што быў заблытаўся ў снапах.

Дзяцінства ўсё, як на экране,
Пратупацела басанож
І цеплынёй далёкіх раніц
Змякчае жудасную ноч.

Нарэшце лес — бярозы, ёлкі.
Пападалі мы зноў у снег.
На гэты раз спачыць каб толькі
На гэтай яве, нібы ў сне.

Але мароз даймае крута.
І нас разведчык вёў далей:
— Заманліва зайсці на хутар,
Ды штосьці голасна ў сяле.

Ішлі сцяжынкамі па лесе —
Асіннік голы, беразняк.
Высока вецер куралесіў,
Бы падаваў умоўны знак.

І мы прыйшлі на знак дзівосны.
Яліна голле разняла,
Нібы прыкрыла свае вёсны,
Тугу развеяных балад.

І расхіліўшы тое голле,
Што дасягала да зямлі,
Нібыта ў дом, зайшлі павольна.
Душа, ад радасці замры!

Нас чатырох. А можа сорак
І пяцьдзесят змясціцца тут.
У завіруху тут не сорам
Адчуць лясную дабрату.

Трава пажухлая пад кронай,
Паклаў хтось сена ля ствала.
І ў гэтай хаце век зялёнай
Нібы зіма і не была.

Тут снег не сыпаўся на голаў
І дождж не падаў за каўнер.
Мог дакучаць часамі голад,
Ды ён не вечны — праміне.

Лічы, шанцуе партызану,
Бо пад рукамі дровы ёсць.
І хоць сюды ён трапіў нанач,
Ўсё ж гаспадар ён, а не госць.

І ўміг агеньчык дзіўнай кветкай
Расцвіў на вогнішчы старым.
Спакойнай ночы вам, палеткі!
Спакойнай ночы, хутары!..

Да першае вайны, як пушча,
Тут красаваўся стройны лес.
Алень выходзіў з гэтай гушчы,
Ліса вадзілася, але

Пусціў пілу ў жывое цела,
Спраўляў грабежнік «новы лад».
І толькі елачка ўцалела,
Бо невялікая была.

Расла яна тут на прыволлі,
Увысь расла, расла ўшыркі.
І птушанят гайдалі ў голлі
Вясной і летам вецяркі.

І вось цяпер у час суровы
Народных мсціўцаў, як дзяцей,
Прымае шчыра ў свае сховы,
Пакуль фашыстаў згіне цень...

Прайшло нямала мірных вёснаў.
Калі дакладна — трыццаць пяць.
Жывём у краі мы дзівосным:
Спакойна людзі нашы спяць.

Але нічога не забыта,
Ні тыя зверствы, ні разбой.
Усё запісана, нібыта
Застыла жудаснай разьбой.

І хоць гады ляцяць імгненна,
Бацькамі сталі ўжо сыны,
Мы знаем кожнага пайменна,
Хто не вярнуўся з той вайны.

Як бура снежная завые
І замятае ўсе сляды,
Перад вачамі, як жывыя,
Ідуць таварышы туды,

Дзе некалі стаяла ёлка —
Гасцінны дом для партызан.
Дым лезе ў нос сасновай смолкай,
Як трыцаць год таму назад.

Дыміць касцёр, як кепскі бровар
Ці смалакурня за сялом.
Стаіць Валодзя, хмурыць бровы,
Збірае Міця буралом...

Зрывала ліст апошні восень
З асін прыглушаных, з бяроз,
Калі ізноў мне давялося
Прыпомніць тое, што збярог.

Даўно няма ўжо той яліны.
Мо скрыпкай стала ў скрыпача,
Каб граць «Па ўзгорках і далінах»,
Каб жар душэўны не зачах.

Стаю на гэтым самым месцы,
І нешта сэрца апякло.
Я не магу на пень той сесці.
Паклон табе, лясны паклон!

*1979*

## ДЗІВОСНЫ СВЕТ

Здаецца, вельмі проста
Дастаць рукой блакіт.
Ступіў за тую ростань —
Дзівосны свет такі:

Край неба адступае
І кліча ўсё далей,
Дзе лес — піла тупая —
Гамоніць весялей.

Было такое лета
У дзяцінстве. І не раз
Я рваўся на край свету —
За вёску са двара...

А потым, калі вырас,
Пазнаў цану жыцця.

Чакаў вясною вырай,
Ці птушкі не ляцяць

У родны край любімы,
Што порахам прапах,
Што засланяўся дымам —
Гарэў, ды не прапаў...

І дачакаўся змены
Пасля ліхіх гадзін.
Унучак гільзу ў жмені
Трымае: — Паглядзі!

Гарэзны непаседа
Ў пяску начысціў медзь.
Не ведае, што дзеда
Мінула з гільзы смерць.

*1977*

## У ЗІМОВЫМ ЛЕСЕ

Лес зімой прыгожы, дзіўны —
Цішыня і ўсюды бель.
Там без песень пераліўных
Жыве шэры верабей.

Пераскоквае сініца
З густой елкі на сасну.
Пэўна, птушцы ноччу сніцца
Пра зялёную вясну.

А наогул, лес — загадка,
Калі ты ў ім першы раз.
Ужо вельмі роўна, гладка,
Хоць зімовая пара.

Як уважліва паглянеш
Навакол туды, сюды,
То пакажа снежны глянец
Незлічоныя сляды.

Нехта ціш тую парушыў
(Крык савіны прагучаў).
Скочыў дзік,
падняўшы вушы,
Праз яловы праз гушчар.

А ўгары мільгнула вёртка —
Хвост паджары і густы.
Гэта рыжая вавёрка
З дрэва падала ў кусты.

Нехта ў лесе,
нібы ў хаце,
Моцна стукае: стук-стук.
То асіну лечыць дзяцел,
Што чуваць аж за вярсту.

Нейкі след глядзець прыйшлося,
Бы карова тут прайшла.
Гэта след старога лося
Павярнуў на біты шлях.

Потым скажаш: след,
як лапаць,
Нам падкінула зіма.
То была б мядзведзя лапа,
Толькі ў нас яго няма.

*1977*

## НА ЛЫЖАХ

Сонца іней ліжа,
Што ляціць з асін.
Выбеглі на лыжах
Саша і Васіль.

Вось імчацца з горкі,
Падаюць у снег.
Столькі ў іх гаворкі,
Не прысніць і ў сне.

Выскачыў і Паўлік,
А за ім — Ігнат.
Жаль, што хлопцы ўпалі,—
Павел іх дагнаў.

Крыўдна, ды не надта,
Што тут гаварыць.
Вунь на санках Ната
Сунецца з гары.

*1977*

* * *

Пакасілі мае
        лугі зялёныя
Косы сталёвыя,
        вятры шалёныя.

Не шумяць яны
        канюшынай, мятліцай.
Курапатка не можа
        там прытуліцца.

Я са скрухай іду,
дзе травы віліся.
Ды і ногі цяжкім
свінцом наліліся.

*1980*

## ТЫ СТАЛА ПЕСНЯЮ

Сцяжынкай вузкаю
Між каласоў ішла —
Чырвонай блузкаю
Паказвала мне шлях.
Калі баразнамі
Я на «жалезку» йшоў,
Начамі грознымі
У вачах ірдзеў той шоўк.
За радасць веснюю
Не грэх згарэць душой...
Ты ж стала песняю —
З ёй не прапаў, дайшоў.

*1962—1979*

## СОНЦА І КРАТЫ

*Прысвячаецца былым вязням*
*Картузскай Бярозы*

Па адзін бок — схуднелы араты,
Па другі — недзе сонца ўставала.
І прыціснулі чорныя краты
Сілу мужнасці, волі ў сто балаў.

Сонца ўстала, пайшло па краіне.
Чалавек жа сядзеў у падвале.
Але верыў, што мур перакіне,
Свайго ката пад цэглы падваліць.
Гэта вера мацней, чым стыхія,
Гарачэй,
чым гарачая лава.
І ўзнімаліся сілы такія,
Што няволю сатруць і расплавяць.
Пад ударамі рухне Бяроза,
І пакоціцца рэха ў Асвенцім.
І тады на шляхах і баразнах
Па-сапраўднаму сонца засвеціць...
Не стрывала напору жалеза —
Камуніст быў мацнейшы за ўдары.
Пакуль сонца праз краты пралезла,
Ён ішоў пад чырвоным штандарам.
І дайшоў ён, і добры і грозны,
Даў народам свабоду —
хай свеціць!
І той факел з Картузскай Бярозы
Ён прынёс у Дахау, Асвенцім.

*1966*

## ТОЕ ПОЛЕ

Вось і поле. Тое поле,
Дзе звінеў мой красавік.
Спамінаю з горкім болем
Кожны камень-патайнік:

Баразной брыду за плугам,
Покуль стукнецца ў нарог.
Паднялося ўжо над лугам,
Паліць сонца, бы знарок.

Залівае потам вочы
(Камень [redacted] бацькам дастаем).
І так хочацца ў цянёчак
Да бярозкі да тае...

А сягоння ўсё іначай,
Поле — роўная далонь.
Толькі бацька не пабачыць,
Як арэ сталёвы конь.

Не пабачыць хвалі жыта,
Лёну сіняга разліў.
...Больш за трыццаць год ляжыць там,
У калдычаўскай зямлі.

*1978*

## ДАБРАДЗЕЯ

У мяне сягоння падзея —
Кнігу добрую я прачытаў,
І завецца яна «Дабрадзея»,
Значыць, кніга добрых спраў.
Піша нам Нэля Тулупава,
Піша нервамі, ўсёю душой.
То яна дзіцянём тупае,
То жаўрам звініць над зямлёй.
Не баіцца паэт пакутаў
У імя чысціні і дабра.
Яе востраў — бусліны закутак.
Хай асмеліцца хто адабраць!

Гэты востраў — куточак краю.
А за край і памерці не страх.
Перачытваю, зноў чытаю,
І здаецца, што піша сястра.

*1978*

## ЗАЦЕСНА НАРВЕ Ў БЕРАГАХ

Зацесна Нарве ў берагах —
Вясною на папасе.
Па лазняках і па лугах
Шырока разлілася.

Шукае новыя шляхі
Ад самае заранкі,
То круціць вір каля альхі,
Дзе зімавалі ракі.

Яшчэ трава не парасла,
Ледзь толькі выглядае,
А над усім шуміць вясна
Такая маладая.

Ах, колькі качак на вадзе,
І кнігаўкі над імі!
Гудзе над Нарваю, гудзе
Вясна з цудоўным імем.

Бывай, рака! Змагу — прыйду
Ў лугоў прастор бясконцы,
Дзе сонца кідае ў ваду
Гарачыя чырвонцы.

*1977*

## У ПЛОЦКУ

Бліщчыць крыштальная раса,
Зялёныя прысады.
За паваротам — горад-сад,
На лавачцы прысяду.

Я не злую за тую быль —
Калючыя сустрэчы.
Я проста цяжкасці забыў:
Час раны добра лечыць.

Што пераджыў, перацярпеў —
Падтоптана пад ногі.
Затое радасна цяпер
Не толькі мне, а многім.

...Прабегшы пальцамі лады,
«Бярозку», як бывала,
Вядзе з задорам маладым
Мой новы друг Сувала.

Да «Падмаскоўных вечароў»
Даходзіць ён нарэшце.
Бярэ за сэрца — будзь здароў! —
Таксама, як і ў Брэсце.

Бо для душы няма граніц —
Яна заўжды ў бязмежжы.
І дружба выйшла з камяніц
Паветрам дыхаць свежым.

*1977*

## ДЗЕ ТЫЯ ПЯСЧАНІКІ!

Вёска ёсць Пясчанікі —
Так ці мо не так?
Запрашаў на дранікі
Беларус-зямляк:

— Запытай Лісоўскага,
Кожны скажа дзе.
Вельмі была коўзкая
Сцежка для людзей.

Нас лічыў крамольнымі
Паліцэйскі чын.
Логіка няўмольная —
Як абвергнеш, чым?

Так мы разляцеліся
З Плоцка ў свой куток:
Я — дзе Шчара сцелецца,
Ён — пад Беласток.

Час ляцеў ракетаю,
Куляю свінца.
Песня не дапетая
Сёння да канца.

Дзе ж тыя Пясчанікі
Сябрука майго?
Недзе пахнуць дранікі.
А ўжо сорак год!

*1976*

## НА БРАТНЯЙ ЗЯМЛІ

Бяжыць дарожка роўная
За самы небакрай.
Цвіце зямля чароўная,
Ну так, як родны край.

З цікавасцю праехалі
Ўжо не адну вярсту —
Дамы з клінамі-стрэхамі
І дзятлаў перастук.

Бярозы — тыя самыя,
Асіны шалясцяць.
Нібы прыйшла вясна мая
З юначага жыцця.

І кветкі тут ружовыя
Прымаю з белых рук —
Шляхі перакрыжоўвае
Так Польшча, Беларусь.

Абдымкі, словы шчырыя.
Размова ў лад ідзе.
Гляджу на рэчы шырай я,
Чым некалі глядзеў.

Заняты творчай працаю
Шахцёр, араты — ўсе.
І слухаюць па рацыі,
Што заўтра прынясе.

А заўтра — будуць новыя
Здабыткі, як і ў нас...
Шумяць лясы сасновыя —
Такая старана.

*1977*

## ЗАКАЛАСУЕ НОВЫ ДЗЕНЬ

Лісцё на ўтоптанай сцяжыне
Гарыць як жар: не наступі!
І [redacted] хвой плыве смала бурштынам,
Нібыта мёд хто растапіў.

Іду я ў мройлівую просінь
Цераз сасновы маладняк.
А навакол шугае восень
Лагодным подыхам паўдня.

І мне здаецца — гэта лета
Ў чырвоным полымі дубоў
У лес прыйшло і на палетак,
Каб затрымаць зіму сабой.

Ды што прайшло, таго не вернеш,
Не ўзнімеш ліст, які ўпадзе.
...Дзесь прарастае ў глебе зерне —
Закаласуе новы дзень.

*1977*

## БЕЛАРУСЬ У КОЖНАЙ КРОПЛІ

Пад Новы год чакалі шчасця.
Але ці з'явіцца яно?
А небасхіл агністай масці
Ірдзеў на ўсходзе, як вянок.

Там Беларусь спраўляла свята,
Свой найвялікшы юбілей.
Тут паліцэйскі лез у хату,
Каб чалавек нутром балеў.

Мы дваццаць год ішлі праз турмы
Да светлых, сонечных вышынь.
Былі мы песняй,
былі штурмам,—
Што вырывалася з душы...

Дымяць увысь заводаў трубы,
Шумяць пшаніца і жыты.
І вусны самі шэпчуць: любім,
У бой пайдзём, як скажаш ты.

На скрыжаванні дзён Еўропы
Стаіш і свеціш, як маяк.
О Беларусь,
ты ў кожнай кроплі,
Бо ты — рэспубліка мая!

*1980*

## ПАЧАТАК ВЯСНЫ

Аб гэтым сведчыць каляндар
І месяц сакавік.
І пацягнула штосьць удаль,
Ўзнімае тэмп крыві.

Шпака, напэўна, тое «штосьць»
Трывожыць, як мяне,—
Звініць паток, зіме на злосць,
Сярэбраных манет.

*1979*

## УСПАМІНЫ

Успаміны, успаміны,
Вы прыйшлі з якіх вякоў?
Не адкінуць, не пакінуць —
Абступілі навакол.

...Выплывае з добрай ласкі
Хутар (нервы прыбяры).
Не кулацкі — партызанскі,
Дзе збіраліся сябры.

Яблыні цвілі і грушы
Пад лясны, ледзь чутны шум.
Патэфонная «Кацюша»
Развярэджвала душу.

Цягнікі ляцелі прахам
І завальвалі адхон —
Чорным долам, чорным страхам
Быў для немцаў перагон.

Не памог фашыстам бункер —
Усё схавалася ў траве...
Толькі хутар ля чыгункі
Дажывае доўгі век.

Гаспадар не йдзе на хутар —
Ні стары, ні малады,
Дзе туман, як дым, ахутаў
І падзеі, і гады.

*1979*

## ДРУЖБА

Вечар зоркі мазаў сажай,
Ні адна ўжо не дрыжыць.
У той вечар кажа Саша:
— Дзед, давай з табой дружыць.

Дружба ў нас даўно вядзецца,
Нібы ў чайніку кіпіць.
— Дзед, купі ты мне вядзерца
І лапатачку купі.

У мяне ёсць паравозік,
Калясо толькі зрабі.
Нагружу — пясок хай возіць,
Возіць ягады з рабін...

Восень ласкава ступала,
Дзень заняўся залаты.
Мы нарэзалі сто палак,
Будаваць будзем масты.

Вось і насып, вось і мосцік,
Раздаецца рэзкі свіст:
Гэта Саша едзе ў госці,
Едзе Саша-машыніст.

*1977*

## ЧЫГУНКА

О гэты поезд, гэты поезд!
Адкуль, куды ён пралятаў?
І я глядзеў услед з запоем.
Паны ж казалі: цемната.

Але чаму мне любы рэйкі,
Чаму цягнула ўдалячынь,
За небасхіл, за тыя рэкі,
Што нават сніліся ўначы?

Шкада сасонак тых і сёння,
Што пакідалі родны край...
Малітву я шаптаў спрасоння:
Чужынцаў, божа, пакарай!

Ішлі гады. Я стаў дарослы
І не малітву браў, а тол —
Ўзляталі рэйкі, мае вёсны,
Гірлянды зрушаных мастоў.

Шкада чыгункі? Ну, вядома.
Але краіны — яшчэ больш.
Як выганім фашыстаў з дому —
Уляжацца пякучы боль.

Прайшлі гады. Не паравозы,
А цеплавозы ўдаль імчаць:
Ледзь праз акно лаўлю бярозы,
Чырвоны колер кумача.

Ва ўсе канцы цяжкія грузы
Шле Салігорск і Гомсельмаш.
Аж да праліва Лаперуза
Кладзе барозны трактар наш.

Не перагоніць вецер ходкі
Рух цягнікоў і наш разбег...
Праславім веліч пяцігодкі
У вершах, прозе і разьбе!

На рэйках-нітках, быццам магній,
Палае сонца. Лес ажыў.
Мяне ўжо ўнук за руку цягне:
— Хадзем, дзед, поезд пакажы.

Няхай вядзе яго дарога
Насустрач сонечнаму дню.
А я гляджу туды з трывогай,
Дзе рэйкі сходзяцца ў адну.

*1978*

## ХАДЗІЛІ МЫ ПАХОДАМІ...

Далёка ўжо за намі
Той гераічны час:
Былі мы партызанамі,
Не ўсе любілі нас.

За ручку з паліцаямі
Віталіся не мы.
За кроў ім абяцалі мы
Душ са ствалоў нямых.

Хоць па балоце плёскалі,
Ды не забыць сустрэч,
Калі ішлі мы вёскамі,
Вінтоўкі зняўшы з плеч.

Выносіць дзядзька бульбачку,
А цётка — малако.
— Ніпто,— кажу прабуючы.
І ўсмешкі навакол.

— Засмажыць трэба курыцу —
Не знойдзеш на сяле.
Мо самасад закурыце,
Каб сэрцу весялей?

7 Зак. 2273

І сумна тут, і радасна,
І ты нібыта ў сне.
А надта ранняя вясна
Апошні гоніць снег.

Нішто не забываецца,
Калі яно ў душы:
І сакавік, і раніца,
Задымленая шыр.

Здалёк не раз мы бачылі:
Ўзыходзіць сонца там,
Над шэрай хатай матчынай —
І сум, і яснаta.

За дым калматы з коміна,
За ночку давідна,
За жытнюю саломіну
Аддаў бы ўсё да дна!

Такія яны блізкія,
Што ворагу не быць!
Агнём смяротным бліскаем
І будзем біць і біць!

Любою непагодаю
Ляцелі ўвысь масты.
Хадзілі мы паходамі,
І не забыць аб тым.

І добра. Сцежкі росныя
Завуць у тую даль,
Дзе зрэнкі паравозныя
Гасіла наша сталь.

Зноў са старымі ранамі
З-за вішнякоў і сліў
Ў паход выходзім рана мы,
Ды сцежкі зараслі.

Калісь былі прагаліны —
Там лес расце цяпер.
Дзесь у зямлянцы спаленай
Ржавее ПТР.

Над нетрамі ласінымі
Дугу вясёлка гне.
На полі ж вочы сінія
Расплюшчыў даўгунец.

Дзе былі лозы ніцыя,
Бруснічная ікра,—
Шуміць, шуміць пшаніцаю
Мой беларускі край.

Гляджу на непаўторнае:
Такія берагі!
Крывёй шляхі праторany,
Каб волю берaглі.

*1976*

## ПЕРШЫ СНЕГ

У гэтым студзені ён першы.
А колькі іх было ў мяне,
І дзён аснежаных, прамерзшых,
Што не змаглі закамянець?

І белы снег зноў адкрывае
Штосьць непаўторнае ў жыцці,
Адкуль вядзе мяне крывая,
Каб не вярнуцца, не прыйсці.

А можа, снег мне толькі сніцца,
Маленства крок, юнацтва ўзлёт?

7*

Ды не. Бо чую, на расніцах
Растайвае сняжынак лёд.

...Імчыць кагосьці поезд дачны,
Пазбавіўшы трывог і дум...
За першы снег, за ўсё я ўдзячны,
Што па сваёй зямлі іду.

*1977*

## МІРНАЯ РАНІЦА

Ах, нашто гэты свіст рэактыўны
Раніць душу ад самага рання?
Мне хапіла б і рэк пераліўных,
Што ўліваюць спакой, а не раняць.

Мяне бор векавы ў госці кліча,
Дзе страха на зямлянцы апала,
І на полі сасна, нібы клічнік,
Уцалелы ад штурму, напалму.

Там я свой, да знямогі адданы,
Нават лось не баіцца, падходзіць.
Толькі дзесь за далёкім курганам
Чую тупат — я зноў у паходзе...

Сёння вёску маю дарагую
Засланяюць ад чорнай напасці.
І, скажыце, чаму не магу я
На спакойную думку напасці?

*1976*

## СКАРЫНА

Ён бачыў: кінулі на горад
Магнаты цемру, цень — крыжы.
На радасць нам, а ім на гора
Ён працаваў і ўпарта жыў.

Першадрукар тварыў, прарочыў,
І час дарэмна не мінуў:
Аззяла кніга людзям вочы,
Адкрыўшы праўду і ману.

Ён першы кнігу даў славянам,
На простай мове ўзорны ліст.
Ён знаў: з-за хмараў алавяных
Праб'ецца сонца да зямлі.

Нішто народ наш не скарыла —
Працуе, творыць, будзе жыць.
Шкада, не бачыць наш Скарына:
Якія сёння тыражы!

*1978*

## ДАРОГА

Маладосць ты мая —
Камсамольскі падпольшчык!
Ты была як маяк
Над прасёлкамі Польшчы.

Ты ішла праз штыкі
Паліцэйскіх кардонаў.
Не зламалі такіх —
Кропля я з тых мільёнаў.

Ах, чаго ты ізноў
Непакоішся, сэрца?
З тых далёкіх гадоў
Я ўвесь час на паверцы.

Дружбы шчырасць бяру
Я цяпер у дарогу.
Я люблю Беларусь —
Гэтым сказана многа.

Дый за Бугам зямля,
Што пакуты цярпела,
Б'е паклон мне здаля
Жытнім коласам спелым.

Стрэў, як брата, народ
Працавіты, увішны.
Хіліць мне цераз плот
Лета спелыя вішні.

Цёплы поціск рукі,
Чарка з мёдам іскрыцца —
Землякі — землякі
Мне і тут, за граніцай.

А як позірк вачэй
Грудзі ласкай прашые,
Як зара — не, ярчэй! —
Бухне полымем пшыязнь.

*1977*

# БЛАКІТНАЕ ІМГНЕННЕ

Паэма

## 1

Бягуць па снезе лыжы.
Эх, лыжы-палазы!
І вёска штораз бліжай,
Дзе сэрца палажыў.

І неба ружавее,
Бы полымя гарыць.
Ды смутак не развеяць
З вясенняе пары.

Бягуць па снезе лыжы,
Бы хтось спусціў з акоў.
Там сонца далі ліжа
Чырвоным языком.

Там ёсць адна сцяжынка,
Што гіне ў сасняку.
Там хор птушыны дзынкаў
І чулася: ку-ку.

Цяпер амаль што пуста:
Не чутны голас дня.
Пад беласнежнай хусткай
Прыгнуўся маладняк.

Ды ёсць на свеце сіла
Няўмольная, як здань,
Скарыўся б і асілак,
Дала загад: у даль!

Адкуль ён, той пачатак,
Той імпульс у душы?

Зляцеў з зялёных шатаў,
Што вецер варушыў?

І сёння ловіць жменяй
Мучністы снег-пылок...
Блакітнае імгненне —
Было ці не было?

*

Тады прыходзіць шчасце,
Як возьмеш свой рубеж.
Ўзяла яго і Насця
Ва ўпартай барацьбе.

Бывай, дзесяцігодка,
Шумлівы, дружны клас!
І радасць, як паводка,
Са школы пацякла.

Туды, дзе даль імгліцца,
Дзе спеюць каласы,
Дзе пахне лес жывіцай
І навакола — сінь...

У яе ёсць трактар — цацка,
Паслушны, як дзіця,—
Кладзе барозны хвацка
І будзіць даль-прасцяг.

Глядзі — блакіт бясконцы,
Як мора караблю.
Дзяўчына. Трактар. Сонца.
Бяры мальберт, малюй.

Абвеяна вятрамі,
І рукі — бронза-медзь.
Цвітуць на ўзлеску травы,
Захоча — будзе мець.

А вусны водар ранні
Ўдыхаюць спакваля.
Усё ў яе ўладанні —
І неба, і зямля.

І можа ганарыцца:
Тут зерне ляжа ў грунт
І вырасце пшаніцай
Як дар гаспадару.

Спявае песню ціха
(На сэрца штосьці лягло).
А трактар, чорт, зачмыхаў,
Закашляў і... заглох.

І ціснула на стартэр,
Заглядвала ў матор.
А ён стаіць упарта,
Бы ўбачыў светафор.

*

На перазменцы людна,
Сабраўся ўвесь завод.
Спяшыць рабочы люд на
Пяцімінутны сход.

Перахіліў за поўдзень
Зямны кругаварот.
— Ў калгас падшэфны пойдзе,
Хто завяршыў свой год,—

Сказаў дырэктар строга,
Каб не пачуць, што «не».
І тых вядзе дарога,
Дзе будзе лес сінець,

Блішчаць дзе будуць росы,
Як срэбра, на траве,

Дзе васільковы россып
У даль цябе заве.

З такім настроем едзе
Наш слесар «на сяло»
Дапамагчы суседзям,
Каб добра ўсё было.

— Прыехаў, брат, ты ў пору,—
Штурхнуў «пред» у плячо,—
Паглянь, як у маторы
Капаецца дзяўчо.

І слесар змераў вокам
І трактар абышоў.
Вясна была навокал,
З адкрытаю душой.

Папоркаўся ў маторы,
На стартэр насядаў.
І раз, ужо каторы,
Скрадалася бяда.

А як матор загаўкаў,
На вытыркнуты болт
Спяшыў накінуць гайку...
Прарэзаў палец боль.

— Неасцярожны,— кажа,—
На ўзлеску ёсць вада,
Абмыем і завяжам —
І паўбяды бяда.

Нязлосна так напала
І зелле-крываўнік
Расцерла — і на палец,
І боль памалу знік.

Хусцінку потым рвала
Бялюткую, як снег,
I палец бінтавала.
А ён... нібыта ў сне.

То быў не сон, бо вочы —
З азёрнай сінявой.
Глядзіць на іх і хоча
Ўтапіцца з галавой.

Яна вачамі паліць:
— Ану ў калгас жывей.
Мерсі. А бедны палец...
Да шлюбу зажыве.



Было тое імгненне.
I ёсць на пальцы знак.
I бачыць яе меней
Не можа ён ніяк.

Ўжо не баліць той палец,
Нязграбны, качарга.
Пачуцці ж не прапалі —
Ўзрастаюць як мага.

На тое едзе поле,
Хоць там няма яе.
I сэрца ные болем —
Лякарства не стае.

Ён не знімае стрэльбы
З заснежаных плячэй.
Сустрэў бы,
ох сустрэў бы!
Тады было б лягчэй.

2

Зялёныя прасторы...
Паглянеш навакол,
Як край цвіце, гаворыць
З няпамятных вякоў.

Каторы год спакойна
Цвіце на радасць нам.
Калі не чутна войнаў,
Тады звініць вясна.

Звініць яна рачулкай,
Крынічнаю вадой
І сыпле па завулках
Пялёсткаў цветабой.

І хочацца ў прасторы
Душою адпачыць —
Хай вецер песні ўторыць
Мацней, чым скрыпачы.

На кіламетры сотым
Ёсць пасека адна.
П'еш мёд са свежых сотаў,
Вясну і радасць дня.

Усхваляваны слесар
На хутар ля вярбы
Цераз загоны з лесу
Імчыць, паспець абы...

Бяда гэта ці шчасце,
Але, душа, прымі:
Сустрэў учора Насцю
Каля тэатра «Мір».

Сказалі па два словы
(Ніхто не чуў пра што).

І вось вачамі ловіць
Зялёны той прастор.

І матацыкл на хутар
Маланкай завярнуў
І пылам двор ахутаў.
І ён праз пыл зірнуў:

Яна яго чакала,
Хоць віду не дала.
І гутарка памалу
Пайшла на добры лад.

Ну што рабіць? Прызнаўся:
Адзін не можа жыць...
— А мо гэта мана ўсё,—
Ты справай дакажы.

Ўсё вельмі дзіўна, проста:
Прыехаў — пакахаў...
З прывабным станам, ростам.
І бровы, як страха,

Накрылі хлопца злосна,
А злосці ані-ні.
За домам ціха соснаў
Часамі медзь звініць.

— Ты сцелеш надта гладка,
Як мачаха мая.
Ты лепш спытай спачатку,
Што адчуваю я.

Пытаў Васіль пра гэта,
Пра ўсё ў яе пытаў.
Ды зноў прабегла лета,
Як конь той,— скапыта.



Праклюнулася восень
З квартальнага звяна.
Праз дзён мо сем ці восем
Заглянуў старшыня:

— Што робіць твой Паддубны?
Як маецца райцэнтр?
Мо ўдарым хутка ў бубны? —
Дзяржыць пісьмо ў руцэ.

— Нічога з ім не згубіш,—
Паправіў свой берэт,—
Адно бяда: у губы
Гарэлкі не бярэ.

І як мы крыкнем: «Горка»,
Калі прыйдзе пара?
Яна ж ірдзее зоркай,
Бы выйшла на парад.

Гарэзлівая Насця:
— Замала мне гадоў.
Адкрыла б дзверы насцеж,
Ды дзе ў мяне той дом?

— Абы была ты згодна,
Збудуем шклянку-звон.—
І хоць сказаў лагодна,
Па сэрцы — як лязом.

Нібы ў калейдаскопе
Мільгнула ўсё жыццё...
— Сцяпанавіч, мо хопіць
Ліць масла на касцёр?

Калі сказаць па праўдзе,
Нашто мне ціш ды гладзь.

І я не тая Клаўдзя,
Што любіць пагуляць.

Я паважаю горад,
Ды тут мой пуп і лёс.
А там зазнаю гора
Без ніў і без палёў.

— Не пырскай, нібы сечка,
Маланка без агня.
Пакорны, як авечка:
У стойла заганяй.

Абцяў сваю прычоску.
Рыхтуецца ў сваты
І пераедзе ў вёску,
Як загадаеш ты.

Усмешка залатая
Прабегла ад вачэй:
— Пісьмо як прачытаю,
Пагутарым яшчэ...

*

Васіль жыве ў калгасе,
Механік хоць куды.
Апошні лямпу гасіць
Ударнік малады.

Ідзе з майстэрні хутка,
У дом спяшыць [redacted] гары,
Бо там хлапчук-малютка,
Што бусел падарыў.

І Насця сустракае,
Яечня на пліце.
А Насця ўжо такая,
Што хочаш напляце.

Адкуль яно бярэцца —
На трактары дрыжыць,
Нідзе не ходзіць, здэцца,
У яслі забяжыць.

Чаму такая дробязь
Таўчэцца ў галаве?
Нічога тут не зробіш —
Такі ўжо чалавек.

Усё ён хоча ведаць
Ад вёскі да Крамля,
Аб поспехах суседа,
Чым славіцца зямля.

Высокія ўраджаі —
Сягоння лозунг дня.
Бульдозер выязджае
Палеткі параўняць.

А потым будзе Насця
Палетак той араць,
Барозны роўна класці —
Малюнак з буквара.

І быў той дзень звычайны.
Ды як тут далажыць,
Што вогненная тайна
У сырой зямлі ляжыць.

Лепш скажам, што ляжала
З апошняе вайны
І пеканула джалам
Таго, хто без віны.

Не стала болей Насці
І трактара яе...
Знікае радасць, шчасце,
Калі вайна ўстае.



Даруй, чытач, што праўда
Вылазіць, як з мяшка.
Апраўдвай не апраўдвай —
Цябе не ашукаў.

Шкада мне Насцю, Васю,
Малога — яшчэ больш.
Сядзіць у першым класе,
А ў сэрцы смутак, боль.

*1979*

8 Зак. 2273

# ВУЛІЦА ІВАНА ДАБРЫЯНА

Паэма

1

Вясеннім пахне сырадоем
На сонцы ўпрэлая зямля...

Вякі прабеглі чарадою,
Кідалі цені, часам бляск.

І кожны водбліск сэрца джаліў,
Паліў, даваў народу гарт.
Гісторыя ў свае скрыжалі
Пісала факты, як загад.

Іх не стапталі, як падноскі,
«Гісторыкі» варожых орд:
У барацьбе наш Каліноўскі
Пакінуў след, як метэор.

За шчасце хто ішоў на бітвы
І аддаваў агонь душы,
Не будзе кінуты, забыты.
І той агонь не патушыць

Вятрам, адкуль яны ні дзьмулі б,
Якую б пошасць ні няслі,—
Свабоду людзі так адчулі,
Як майскі водар яблынь, сліў.

2

І помніць Янка: цвілі слівы,
Вясна была як напаказ.
Ці быў юнак тады шчаслівы,
Не мог станоўчы даць адказ,

Бо не было і ў сне спакою:
Сусед ганяецца, як чорт,
Парэзаў ногі асакою,
Ад пугаўя баліць плячо.

Мо гэта лёс? Сялянскі хлопчык
Не верыў цудам, ну і ў лёс.
Драпежны пан хоць ботам топча,
Усё ж мы — людзі, не быллё.

Ён чуў, як хлопцы гаварылі,
Што на паноў прыйдзе канец,
Бо гнеў народны пекане...
І выраставі ў думках крыллі.

І ён ляцеў у свет чароўны,
Нібы на крылах светлых мар,
Туды, дзе шчасце, брацтва, роўнасць,
Слядоў няволі дзе няма.

Пакінуць край, кальнула думка,—
Бацькоў, таварышаў-сяброў?..
А ў сіняве над віядукам
Жаўрук рассыпаў серабро.

І дзесьці кнігаўка крычала,
І дзяцел біўся аб сасну —
Вясна ішла з такім запалам,
Нібы сарвалася са сну.

А Беларусь была на месцы
І застанецца на вякі.
Яе не вырваць, не панесці,
Як тую лотаць на вянкі.

Адно, што можна,— гэта тое,
Каб больш садамі зацвіла,
Каб вечна сонца залатое
Не адыходзіла з сяла.

Але за гэта трэба біцца
І ў бітве той перамагчы.
Лягчэй на сэрцы стала, быццам
Ад праўды ён знайшоў ключы.

3

Хадзіў Іван паміж сасонак,
Паміж бярозак і асін.
На той палянцы ціхай, соннай —
Мурог зялёны, неба сінь.

І наплывала хваляванне
І ахапляла ўсё нутро.
Сюды яшчэ прыйшоў ён з рання,
А сход пачнецца каля трох.

Разгледзеў ён усе дарожкі,
Сасну крывую, тоўсты дуб.
Прысеў пад дубам тым на трошкі,
А вось і хлопцы ўжо ідуць.

Не чутна ветру, а гамоніць
Над галавой галлё само.
Без урачыстых цырымоній
Прынялі хлопца ў камсамол.

А потым выступіў таварыш,
Сур'ёзна, складна гаварыў,
А ўсмешка бегала па твары.
Чаму ў Івана твар гарыць?

Ад хвалявання? Захаплення?
А госць гаворыць: «Барацьба —
Адвага, вытрымка, цярпенне».—
І зноў усмешка на губах.—

Так, барацьбу лічы мастацтвам:
Павінна душы гартаваць.

Неасцярожнасць — можа стацца,
Што паляціць і галава...

А будучыня — перад намі,
Свабодна людзі будуць жыць,
Бо развітаемся з панамі —
Стаім на гэтым рубяжы...»

Ішоў дадому — думкам цесна,
Але спакойныя былі.
Лунала дзесьці птушкай песня
І ападала на палі.

Ішоў наш Янка родным полем,
Рукамі гладзіў каласы.
Якую радасць — камсамолец! —
Панёс з сабой сялянскі сын.

4

На хутары, дзе вецер п'яны
Дзярэ салому са страхі,
Сябры з Іванам Дабрыянам
Шукаюць промахі, грахі,

Бо пад ударамі акруга,
Ёсць нехта з чорнаю душой.
Ва ўсіх галовы ходзяць кругам:
Дзе здраднік шчыліну знайшоў?

Залезла ж гадзіна, зараза
І ў камсамольскія рады,
Спявае песні, ходзіць разам
І блытае свае сляды.

Рашалі доўга — і нічога.
Тады Іван (ён сакратар)
Перад далёкаю дарогай
Падаў руку, глядзеў у твар:

«Змяніце яўкі, будзьце пільны.
Глыбей падполле — да пары».
Скрабло па сэрцы, як напільнік,
Пакуль праходзіў хутары.

У твар і дождж і вецер колкі,
Ляціць у вочы мокры снег.
Эх вы, дарогі! Яшчэ колькі
Наяве стрэнуцца і ў сне!

На захадзе падходзяць хмары,
Бы цестам поўніцца дзяжа.
І ўсё ж змагар павінен марыць,
Тады лягчэй нясці цяжар.

Ён марыў столькі, колькі ўлезе.
Дрыготка тузала яго.
Пад елкаю густой у лесе
Расклаў малюсенькі агонь.

Сагрэўся, з'еў кавалак хлеба,
Шкарпэткі скінуў, прасушыў.
Вакол грыбамі пахла глеба.
І весялела на душы.

Пад ранак раптам дождж спыніўся,
І зноў дарога павяла
Па адрасах сяброўскіх пісем
Да незнаёмага сяла.

5

Прайшоў нямала кіламетраў,
Ды спатыкнуўся адзін раз.
Свістаў кастрычнік золкім ветрам,
Калі вялі яго з двара.

На аднаго тры паліцаі,
Яшчэ і рукі ў кайданах.

Ў дарозе «панам» велічалі,
Бо пры народзе, пры панах.

А потым — лёхі дэфензівы
І зграя катаў, як звяроў.
Іван спакойны быў на дзіва.
— Чаму маўчыш? — адзін зароў.

— Ты выкладаеш усё, як трэба,
Мы бачылі і не такіх,—
І тыча гумаю пад рэбры,—
Ёсць тонкія ў нас мастакі.

Адзін «мастак» надзеў кайданы
І збіў зняволенага з ног.
Другі завёў: «Ой, дана, дана»,
А трэці вызверыўся зноў:

— Усіх вас знаем, хто такія,—
Крывіўся, лаянку цягнуў
І пад калені праткнуў кія:
— Ану, спявай! Ану! Ану!

Пасыпаліся ўдары ў пяты —
Боль асядаў у галаве.
А ён маўчаў, маўчаў зацята,
Ён — камуніст і чалавек!

Сцягнулі потым з твару коца *,
З мачою воцат лілі ў нос.
І рагаталі: — Яшчэ хочаш,
Дурное сала і г....!

Не помніў ночаў, дзён не помніў:
Падвал — каменная труна.

---

* Коц (*польск.*) — коўдра, якою накрываюць твар, каб не было чутна крыку ў час катаванняў.

Надзея ў сэрцы ззяла промнем,
Давала водгук, як струна.

Праз колькі дзён такіх «прыёмаў»
Ахвяру, выбітую з сіл,
За краты кінулі: — Ты дома.
Чакай Пятра, дык сыр з'ясі.

6

Эх, Наватрудак, Навагрудак,
Прытулак хлопцу даў які!
Не раз хадзіў па мерзлых грудах
Праз агароды — напраскі.

Мінаў шпікоўскія рагаткі,
Ад завірухі, цемры слеп.
І раптам — сыты і багаты,
Бо перайшоў на панскі хлеб.

Ды есці «хлеб» не вельмі проста,
Павінен быць занятак тут.
Міцкевіча чытае ўдосталь,
Што так любіў свой родны кут.

З сябрамі гутарыць, працуе,
Каб лепей ведаць, што, адкуль.
І ловіць сэрцам, сэрцам чуе
Краіны збуджанае пульс.

Часамі стукнецца сініца
У закратаванае акно.
І доўга, доўга вёска сніцца
На мулкіх нарах — усю ноч.

Жыццё ідзе, хоць жыць нялёгка,
Там скрыпкі граюць, бубны б'юць.
А тут схавалі так далёка,
Што не пралезці вераб'ю.

— Калі з-за хмараў сонца гляне
На наш прыдушаны прастор?
Скажы мне шчыра, добры Яне,
З пакутаў нашых будзе што?

Тады Іван тлумачыць Стаху,
Што будзе ўсё не так, як ёсць,
Каб болей ён не ведаў страху,
А верыў толькі ў маладосць.

І маладосць крышыла межы,
Каб не дзялілі больш людзей.
І адгукаўся ў Белавежы
Той будучыні светлы дзень...

Баранавічы — Седльцы — Равіч.
Куды ж вядуць яго цяпер
Этапы панскае дзяржавы,
Што ахапіў фашысцкі сверб?

7

Над Гродна ціха гаслі зоркі,
Як быццам падалі ў мяшок.
Палын згушчаў настой свой горкі,
А месяц рэзаў лемяшом.

І прачынаўся горад сонны,
Рамізнік гнаў свайго каня.
Старыя панны бралі соннік,
Каб зведаць прадказанне дня.

А дзень ішоў сваёй хадою,
За Негарэлым прагрымеў
І адгукнуўся грамадою
Ў прыглухлай гродзенскай турме.

І грамадою дружнай, смелай
Паўстаў зняволены народ.

Турма гула, турма грымела,
На вуліцы ішла з варот.

Не быў апошні там і Янка,
Нібы нясла яго рака
Над гістарычным гэтым ранкам
І без кайданаў на руках.

Збылося вечнае чаканне —
На танках ехалі браты.
А ён насустрач крок чаканіў,
Насустрач промням залатым.

Ўдыхаў з палёгкай водар свежы,
Нібы няволі не было.
І плыў спакой, як непазбежнасць,
З палёў радзімых і балот.

Палі жытнёвыя, балоты
І верасовыя лясы!
Яшчэ ніколі не было так,
Каб так любіў вас родны сын!

Цяпер людзям не забароняць
На ўсіх лугах касіць траву.
Перад панамі ўжо сягоння
Ніхто не схіліць галаву...

Калі ішоў, а часам ехаў,
Не абыходзіў гарадоў.
Ляцеў бы ён, як тое рэха,
Каб не спазніцца ў родны дом.

8

Над сельсаветам сцяг чырвоны,
Хвалюецца на ветры сцяг —
То сімвал роўнасці мільёнаў,
То сімвал новага жыцця.

«Калі з-за хмараў сонца гляне
На наш прыдушаны прастор?
Скажы мне шчыра, добры Яне,
З пакутаў нашых будзе што?»

Успомніў Стаха з братняй Лодзі
Наш сельсавецкі старшыня.
А ў гэты час фашысцкі злодзей
Ішоў гасіць зарніцу дня.

І старшыня той сцяг з флагштока
Спусціў, згарнуў, узяў з сабой,
Каб сэрцы зноў распальваў токам,
Як у смяротны ўступім бой.

Гарэлі вёскі, мірны горад,
І гінуў наш працоўны люд.
Яшчэ, мабыць, такое гора
Не наступала на зямлю.

Пайшоў Іван на лютых катаў
І паднімаў на бой братоў.
Цяпер не тое — з аўтаматам,
Цяпер не тое — ёсць і тол...

Прымалі ўсіх лясныя нетры —
Бі ворага, пажар тушы.
Ляцелі ворагі ў паветра
Скрозь — на чыгунцы, на шашы.

Не склалі рукі ў нашых сёлах,
Падняўся там падпольны рух.
І ўжо не стала дзён вясёлых
Фашыстам ад сялянскіх рук.

Чакалі ў вёсках камісара,
Каб расказаў, што на франтах.
Ён гаварыў заўзята, з жарам,
Як наганяюць немцам страх,

Чыталі зводкі і лістоўкі,
Чакалі радаснага дня.
Ён, павадоў схапіўшы столкі,
Імкліва ўскакваў на каня.

То пасядзіць, то зноў паходзіць
І план накідае такі,
Каб і засады і паходы
Вялі надзейна землякі.

А потым пусціць колцы дыму
(«Лягчэй тварыць, адпачываць»),
Было: і чарку ён падніме
(«Каб не балела галава»).

Вядома, гэта больш для жартаў —
У лесе быў «сухі» закон.
Спіртное выганялі ўпарта,
Каб не малолі языком.

І самадзейнасць была ў лесе,
Насценгазета на суку.
А колькі жартаўлівых песень,
Як мсціўцы ворага сякуць!

Была зялёная і школа
Для малалетніх грамадзян...
Каб добра ўсё ішло наўкола,
Абдумаць трэба загадзя.

І паважалі Дабрыяна
Ва ўсёй брыгадзе, на сяле.
І ён з разведкай партызанаў
Усё часцей быў на сядле.

Ён клапаціўся, каб сяляне
Засеялі свае палі,
Тады і хлеб у дом загляне,
Бандыт якога не спаліў.

З крыжамі чорнымі эскадры
Яшчэ кружыліся ўгары.
А ён казаў: — Патрэбны кадры
Для нашай мірнае пары.

Каля зямлянак і палатак
Снягі дарожкі замялі.
Ды набліжалася расплата
На нашай слонімскай зямлі.

«Калі з-за хмараў сонца гляне?»
Напэўна, гляне ў добры час.
І ён кладзе на боты глянец,
Свой маўзер скінуўшы з пляча.

10

Прайшло ліхое ліхалецце,
З вайны вярнуліся не ўсе.
А хто вярнуўся — сонца свеціць
І радасць кожнаму нясе.

Мінула куля камісара,
Снарад не драпнуў анідзе.
І ён за справу ўзяўся зараз
У партызанскай грамадзе.

Ён — старшыня райвыканкома
І ў гарсавеце — старшыня.
Куды пашлюць — усё як дома,
Раён — вялікая радня.

Калгас — на ногі! Калі ласка,
Аднавяскоўцы — дружны люд.
Прыходзіць поспех толькі ў казках
Без намаганняў на зямлю.

Прайшоў, як кажуць, лабірынты
І ў мірны час, як на вайне.

Здароўя, сілаў набяры ты,
Як музыкі, прасі ўдвайне...

Штурхнула моцна штосьці ў грудзі,
У сэрца клавішы-лады...
«Што адцвіло, цвісці не будзе»,—
Казаў пясняр наш малады.

Мяняецца на небе поўня,
На Шчары хвалі бераг рвуць.
А Дабрыяна людзі помняць,
Яго заслугі берагуць.

Ён будзе вечна між сваімі
Жаданы, добры, дарагі.
І не сатрэцца яго імя,
Бо моцныя ў нас берагі.

...Прачнуўся Слонім рана-рана
І адгружае мэблю, лён.
Па вуліцы... ўжо Дабрыяна
Разносіць пісьмы паштальён.

Адкрый старонку — быль за быллю
Табе раскажа кожны час.
У кнізе славы не забылі
І гераічных сланімчан.

11

Жыву на вуліцы я гэтай,
Дзе дрэвы лісцямі дрыжаць.
Мае суседзі зімой, летам
Працуюць, працай даражаць.

Жывуць былыя партызаны,
Што пасяліліся пазней,
Што застывалі маразамі
У аблаву, моклі ў баразне.

Цану [redacted] нас кожны добра знае
Свабодзе, сонцу, мірным дням.
Эх вуліца, як сінь,— скразная.
Ці ж я каму цябе аддам!

Бо тут Радзіма [redacted] родным домам.
А без Радзімы як жа быць!
Часцінку нат не аддамо мы,
Паўстанем зноў да барацьбы.

Праходзіць дзень, і ноч мінае,
Злятаюць зоркі на сукі.
Яго імя напамінае,
Каб порах быў заўжды сухі.

*1978*



# ВЕРШЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ

## РОДНАЯ ЗЯМЛЯ

Паэма

Чую гул — гэта поезд,
Два працяжных свісткі.
А трава мне па пояс,—
Я іду напрасткі.

Прыдарожны бярэзнік
Ловіць скінуты дым.
Вецер, песеньку рэзні
Пра былыя гады!

1

Як радзіўся — не знаю,
Пэўна так, як і ўсе.
Палявая, лясная
Ўдаль сцяжынка нясе.

Дзе хадзіў, а дзе поўзаў
Па сцяжынцы спярша.

І з пахучай бярозы
Піў салодкі пяршак.

Хацеў сонца пакратаць —
Моршчыў вочы і лоб.
А яно, нібы кратар,
Недасяжным было.

Спеў птушыны, як россып,
Падсвядома збіраў
І на майскія росы
Як на цуд пазіраў.

Ніжай спелага жыта,
Вышай грэчкі хадзіў...
Ох і радасна жыць так
Між расквечаных ніў!

А як свежая глеба
На маленькай руцэ
Пахла лустаю хлеба,
Што пяклі на муцэ!

З'явам кланяўся многім —
Кветкам, хмарам, цяплу.
Падымаўся на ногі,
Каб узяцца за плуг.

Захапляўся касою
На прасторах балот.
Умываўся расою,
Як дажджу не было.

А як дождж — вось пацеха! —
Караблі, караблі.
Калі ехаць, дык ехаць
Аж да краю зямлі...

А зямля? Пэўна, краю
Ёй на свеце няма.
Глянь — зара дагарае,
А на ўсходзе — як мак.

2

Ну, і жэўжыкі хлопцы,
Аж наросхрыст душа!
Нясуць мыла ў каробцы
І на ёй — зямны шар.

Коціць шар на паперы,
Можа, сам той мастак.
І мне хочацца верыць,
Што ў сапраўднасці так.

Чалавек — гэта сіла,—
Так падумаў тады.
А вясна каласіла
І жыты і сады.

Потым — звонкае лета...
Глянь, панюхай, пастой,
Як вісіць над планетай
Пах — мядовы настой.

Потым — ціхая восень,
Залатая пара...
Каб ляпей нам жылося,
Раскажы і парай...

Потым — першая школа,
Галасісты званок —
Так скруцілася ў кола
Дзён дзіцячых звяно.

— Кто ты естэсь? — пытаюць.
— Поляк малы! — кажы...

Я ж вучыцца жадаю,
Каб ляпей было жыць.

Што зямля — форма шара,
Ужо ведаў і сам,
І што кожны абшарнік —
Пан зямлі і лясам.

Паліцая таксама
Блытаць нельга з людзьмі...
За гарамі, лясамі,
Вецер, сцягі надзьмі!..

І на карце — не зблытаў! —
Не стаіць Беларусь...
Так, нахабна пабіты,
Ўсё на сэрца бяру.

3

І мацней сэрца б'ецца,
І трывожна чагось.
І зямля мне здаецца
Не такая, як ёсць.

Ёй, напэўна, нязручна
Трымаць кованы бот.
Песень ёй мілагучных
І багаты ўмалот.

На бярозавым вецці
Чырванеюць лісты.
І здаецца, не вецер,—
Беларусь, стогнеш ты.

Дым даносіцца горкі
З-за далёкіх Карпат.
З неба сыплюцца зоркі,
Як густы лістапад.

То не зоркі, не лісце,
А лістоўкі ляцяць:
«Ў барацьбе наша выйсце
Ў свет свабоды, жыцця!»

І нясецца далёка
Кліч святой барацьбы.
— Біць паноў-крывасмокаў?
Рэха звонкае: «Біць!»

Чалавек — гэта сіла,—
Зразумеў я тады...
Часам ветрам насіла
Над маёнткамі дым.

Над палямі, лясамі —
Сонца вогненны дыск.
— Мы зямлю возьмем самі! —
Загулі правады.

І працоўнаму люду
На душы весялей:
Ababілі палуду
На драпежным арле.

А як будзе цяпер ён
Прыпадаць да зямлі,
Вырвем мокрае пер'е
І расплюшчым, як блін...

4

Геаграфія вучыць:
Шмат на свеце краін,
Залацістых, пахучых,
Ну, такіх, як ў раі.

Але раю на свеце
Не было і няма.

Ты развей, добры вецер,
Рэлігійны дурман!

Прынясі нам з-над Сожа
Спеў свабодных палёў,
Шэлест спелага збожжа,
Крык гусей, жураўлёў.

Пыл развей па-над трактам,
Каб было выразней
Бачыць неба і трактар
У сырой баразне...

Няхай сэрца не ные,
Не шуміць ў галаве —
Створыць цуды зямныя
Толькі сам чалавек.

Толькі праца, змаганне
Ўсё ліхое сатрэ
І як сонейка гляне,
Усміхнецца з-пад стрэх.

Думкі, думкі, я з вамі,
Як з людзьмі, гавару,
Вы не раз мяне звалі
Зерне кідаць у грунт,

Сказаць людзям: паверце
У сваю барацьбу,
Бо і вашыя сэрцы
Распірае ад бур.

Нам не стаць на калені
Ласкі ў пана прасіць —
Так вучыў мудры Ленін,
Так павінна і быць!

Беларусь — кусок шара,
А на карце няма.
Вон, банкір і абшарнік
І ваш чорны туман!

5

Пан і добры, культурны,—
Ксёндз і поп кажуць зноў.
Чаму ж кінулі ў турмы
Нашых лепшых сыноў?

Матка боска над намі
Дваццаць год творыць цуд.
Чаму ж люд кайданамі,
Звоніць лапатны люд?

А хцэш шчэнсця, то падній
Ля малітвенных брам.
Чаму ж поле асаднік
Без малітвы забраў?

Ой ты, поле ты, поле,
Прыдарожны касцёр!
На дарогу таполі
Атрасаюць лісцё.

Восень просіцца ў хаты
Пераспелым аўсом.
Недзе хвошчуць гарматы
Нашы дні і наш сон...

Як варона намоклы
Ожэл бялы прапаў...
Так закончыўся «окрэс»
«Дабрадзействаў» і «праў».

Небяспека навісла
Ад другога арла —

Цуд не стаўся над Віслай,
Вісла з кроўю плыла...

Два гады прапускаю
(Хай даруе чытач).
Нас у госці чакаюць
Ленінград і Чыта.

І зямля лягла шырай:
Вільня — Мінск — Беласток.
Ляцяць птушкі у вырай,
І не скажаш ім: «Стоп!»

Птушкі, птушкі, шчасліва!
Ніл і Нёман — браты.
Там цвіце, пэўна, сліва,
Сыпле дождж залаты...

6

Чорным крыжам злятала
Цень разоў, можа, сто.
Дзікім свістам металу
Напаўняўся прастор.

Агнявыя маланкі
Ад снарадаў і мін.
Поле рэзалі танкі,
У дыме Слонім і Мінск.

Вёскі, людзі гарэлі,
Смерць ля кожных варот —
Па жывой акварэлі
Лез гітлераўскі бот.

Як жа быць тут спакойным,
У рукі зброі не браць!
Супраць катаў, іх бойні
Паднімайся, мой брат!

Ой, такога нашэсця
Не было на зямлі.
Нашай працы і чэсці
Мы аддаць не маглі

Тым, хто край апаганіў,
Хто страляў і душыў...
Нарастала змаганне
У кожнай добрай душы.

І распальваўся ў сэрцы
Скарб няведамы — гнеў.
Акупант аж да смерці
Наш народ не сагне!

Смерць не так ужо страшна,
Калі чуецца гімн...
Адыходзіць ўчарашні
Дзень — настане другі.

Дзень — і сонца іскрыцца,
Зеляненюць палі.
Ты праклятаму фрыцу
Ўсё нутро спапялі!

Дзень — і тысячы сонцаў
Загарацца ў вачах.
У нашай роднай старонцы
Ўсе пад сцяг Ільіча!

7

Ты пра сэрца казала,
Што згубіла вясной
За далёкім вакзалам
На сцяжынцы лясной.

Шмат прайшоў я сцяжынак,
Дзе цвілі верасы,

Даспявала ажына,
Чуўся шэлест асін.

А калі ляжаў ніцма
Пры шырокай Дзвіне,
Пахла мёдам суніца
І званочак звінеў.

Потым з водарам жыта
Цёплы вецер ажыў...
Ну прыйдзі, прыбяжы ты,
Жар вачэй пакажы.

І хоць сёння на золку
Верасы адцвілі,
Ты пачуеш: пад ёлкай
Б'ецца сэрца зямлі.

Я не ведаў дагэтуль,
Што на плечы бяру
Шар зялёны — планету,
Родны край — Беларусь.

Зразумеў я, што біцца
За свабоду людзей —
Тое сама, што быццам
Адкрываць новы дзень.

Ачышчаць ўсе дарогі
Ад жалеза, свінца.
Біць звяругаў двухногіх
Да канца! Да канца!

Разлічыцца за страты
І за слёзы дзяцей...
Выйдзе ў поле араты,
Пышна сад зацвіце.

Будзе лад у Берліне
І на ўсёй на зямлі.
У сусвет з нашых ліній
Паляцяць караблі.

8

Нараджаецца новы
Дзень, а з ім — Новы год.
І мы радасным словам
Сустракаем яго.

На Крамлёўскім палацы
Чырвань —
гэта зара.
І ёй век разгарацца
І сусвет азараць.

Сонца сыпнула косы,
Неба — тысячы зор.
На ракетах у космас
Мы ляцім у дазор,

Каб на іншых планетах,
На прасторах жыцця
Перадаць эстафету —
Слаўны ленінскі сцяг.

Хай усюды, дзе станем,
Жыта буйна расце,
Гул ідзе з нарастаннем
Ад будоўляў, ад сцен.

Хай разбудзіцца ранак
Ля ўзбярэжных ракіт
І ўзнімаюцца краны —
Сіла нашай рукі.

Ажываюць пустыні —
Вынік працы і мар.
Не памрэ, не астыне
Ні Зямля і ні Марс.

Дзе нага наша стане —
Там сады, гарады.
Мы ідзём [illegible] нарастаннем
У прасцяг праз гады.

*1961—1964*

# ХАЙ БУДЗЕ МІР!

Паэма

1

Мой расказ і кароткі і просты,
Самы бурны адрэзак жыцця.
Дзе радзіўся, і бегаў, і рос ты —
Там асіны лісцём шалясцяць.

Край цудоўны, не скажаш іначай:
Поле, рэчка, чыгункі страла.
Толькі песня залівіста плача:
«Да чаго ты мяне давяла».

Ну, а хто тую выдумаў песню,
Мы без жалю яму аддамо.
Галаву не ад хмелю павесіў,
Як вярнуўся з паходаў дамоў.

Два стаялі падбітыя «тыгры»,
У ствалах дзіка вецер свістаў.
Паглядзі, як бакі нехта выгрыз,
Па балоце раскідаўшы сталь!

Адгрымела баёў завіруха,
І такая вакол цішыня,
Што ты доўга стаяць будзеш,
слухаць,
Жаўрукі як у небе звіняць.

І не ведаеш, радасць ці смутак
На душы, як няпрошаны госць.
Адганяеш такую мінуту,
Ды засела, праклятая, вось.

Папярок пераходзіш загоны,
Адхіляеш набок каласы.

Разам з хмаркамі вецер іх гоніць
У далёкую, мутную сінь.

Ўсё бліжэй падыходзіш да хаты —
Ні дзвярэй, ані вокнаў няма...
Адкажы: земляроб ці салдат ты?
Што сягоння: ці ліпень ці май?

Самы ліпень — цудоўны, салодкі!
А чаму на губах гарката?
Табе горка ад думак без водкі.
Учора бой тут яшчэ гыркатаў.

Адказаць могуць толькі падзеі,
Танкі, бомбы, кавалкі слюды...
Зноў мо вораг палезе — падзе ён!
Толькі доўга залечваць сляды.

Трактар поле зраўняе. Дарогу
Будзе гладзіць бульдозера сталь.
Толькі раны на сэрцы не змогуць
Халадзець і быллём зарастаць.

Сэрца будзе крыніцаю біцца
На маленькі ўспамін аб вайне,
Бо яно — агнявая крыніца,
Хоць і музыкі просіць ўдвайне.

2

Хутарок недалёка ад рэчкі,
І да лесу — рукою падаць.
Пахне ліпа, і спеюць парэчкі,
І вясёлкай заквечана даль.

Гаспадар там Ігнат Задарожны,
Два сыны і нявестка пры ім.
Недзе ў лесе зязюля варожыць
Аб харошым жыцці, дарагім...

Ах, жыццё! Змарнаваў люты вораг.
Б'е людзей, паліць хаты, калгас.
Праўду кажуць, трымай сухім порах,
Калі ў сэрцы агонь не пагас.

Не схаваеш ад вока Ігната:
Часта хлопцы збіраюцца ў лес,
Цягнуць ружжы, патроны, гранаты,—
Можа чутка пайсці па сяле.

Раіць ім: «Перш за ўсё асцярожнасць»,
Калі хлопцы запасы нясуць.
А пад вечар і сам Задарожны
Тры вінтоўкі павесіў на сук.

Так прайшлі тыя лета і восень,
За зімою настала вясна.
Зноў з'явіліся хлопцы між сосен,
Каб пачысціць ваенную снасць.

Праз ствалы ім відны небасхілы,
Ці пылінка сядзіць за разьбой.
Ну дакуль «гартаваць» тыя сілы,
Паглядаць на бандыцкі разбой?

А па вёсках фашысты шнырають,
Ловяць моладзь: патрэбны рабы.
Людаеды, не бачыць вам раю,
У няволі не будзем рабіць!

Моладзь знікла — курэй налавілі
І паехалі фрыцы на шнапс.
Не спяшайся, задрыпаны «віліс»,
Паглядзі, як смяецца вясна.

Як схавалася вёска за горкай,
Прагучала магутнае «О-о-ох!».
Ці было ім салодка, ці горка,
Мо адзін толькі ведае бог...

І па вёсцы пайшлі успаміны:
Камісар тут праходзіў, Рыгор...
Ну, і хлопцы ўзяліся за міны
І спраўляліся, можа, не горш.

Стаў звычайным і выбух, і выстрал,
І нарада за вёскай... але
Непакоіў візіт бургамістра,
І патопалі хлопцы — у лес.

3

Адпраўляючы, глянуў на ранцы,
Ціха гутарку вёў сам з сабой:
«Аднаго — на падпольную працу,
А другога — ў няведамы бор...»

Апусцела на поплаве хата,
Зацягнуўся смугою блакіт.
Нешта цяжка на сэрцы ў Ігната,
І паколвае штосьці ў бакі.

Сталі цёмнымі, доўгімі ночы,
Страхі-шолахі ходзяць ля сцен.
Каля рэчкі русалка рагоча,
На загубу склікае гасцей.

І няма да каго аказацца —
Пачынае размову з катом:
«Дзе ты бегаў: за птушкай, за зайцам?»
Кот памахвае толькі хвастом.

За чыгункаю жыў Пацяруха,
І пайшоў да суседа Ігнат:
— Ты, Макар, маю просьбу паслухай
І ў бядзе памажы маёй, брат.

Пакуль вочы заслоніць туманам,
Пакуль гады снуюць па сяле,

Ты прышлі свайго сына Івана,
Будзе мне на душы весялей.

Пацяруха згадзіўся, вядома:
— Памагчы — абавязак і доўг.
І шчасліва ідзіце дадому.
(Шустры жэўжык, трынаццаць гадоў.)

Быў таксама ён здольны, цікавы,
З дзядзькам дровы пілуе, сячэ.
Меў ахвоту да кожнае справы,
Што аж сыплюцца іскры з вачэй.

Адхіліўся з двара Задарожны,
Глянуў: Ваня бяжыць і крычыць...
«Пэўна, немцы» — і сам цераз пожні
Шыбануў без агляд кі ў карчы.

Не фашысты былі тут прычынай,
Гэта Ваня махнуў... па руцэ.
Ён калоў, як сапраўдны мужчына,
А сякера не трапіла ў цэль.

Пасмяяліся потым абое:
Да вяселля рука зажыве...
Чалавек рыхтаваўся да бою,
Ды без бою прапаў чалавек.

Людаеды прыйшлі нечакана.
Павялі. Не вярнуўся Ігнат...
Кулямёт за чыгункай чаканіў,
Вецер хмары кудлатыя гнаў.

4

— Асцярожна, сынок, асцярожна,—
Так праводзіў малодшага ён.
Ўсё стаяў і глядзеў Задарожны,
Сілуэт хоць даўно не відзён.

І не спіцца яму, не сядзіцца,
І работа — не радасць, а боль.
Як павесіў касу ён на дзічцы,
Так вісела мо тыдзень ці больш.

Сніўся сон, што акружаны Віця
З кулямёта сячэ сатану,
Як былінны ці казачны віцязь,
А затым... у траве патануў...

Сэрца бацькава гора адчуе,
І ўпадзе недарэмна сляза...
Аб адвазе героя хачу я
І аб смерці яго расказаць.

Быў гарачым юнак камсамольцам,
Не пражыў васемнаццаты год...
Камсамольцы ніколі не моляцца,
Знаем: гэта — адважны народ.

Ўжо не раз гаварылі, чыталі,
Камсамол, аб геройстве тваім —
І заўжды ў перапоўненай зале
Узнімаўся наш велічны гімн.

...Ціхі верасень. Жоўтая восень.
І туга. Па Радзіме туга.
Не калышацца ніва калоссем,
Асядае туман на лугах.

Гадаваўся без маці наш хлопец,
Толькі знаў, што забіў яе пан.
А ў грудзях нешта тузала: «Хопіць!
Падымайся на бой, партызан!»

І пайшоў са сваім камандзірам
На прарыў, а за імі — атрад...
Маладосць так заўсёды хадзіла,
Пакідаючы след ля кастра...

10 Зак. 2273

Яны першымі палі, як дзеці,
Засланяючы целам сяброў.
І звінела, звінела на свеце
Песня жаўранка, як серабро.

Можа, маці схілілася нізка,
Мо дзяўчына, што помніцца ў снах...
Абарвалася ў пропасць калыска,
І змяшаліся восень, вясна...

Не дарэмна на бацькавы шчокі
Набягала скупая сляза.
Эх, Радзіма! Прастор сінявокі!
Ой, не ўстане з зямлі партызан...

5

Напрадвесні прачнуліся сосны
І паплыў каляінамі снег.
І красой залаціста-дзівоснай
Выйшла сонца насустрач вясне.

Ў гэты дзень з даручэннем Рыгора
Адмяраў кіламетры Раман —
Прабіраўся ў знявечаны горад,
Пацямнелы ад гора, ад ран.

То не горад, а груды развалін.
Але будзе тут некалі сад!
Нас на бой з акупантам пазвалі
Нашы людзі — і вось паласа

Нерашучасці кончыцца сёння,
Сёння ставім на карту: вайна!
І фашыстам не ўдасца спрасоння
Заганяць ў газакамеры нас.

Небяспечныя ў горадзе ночы —
І агню на нарадзе няма.

Тут настаўнік і пару рабочых,
І прыйшоў Задарожны Раман.

— Мець падполле — гарачая пільнасць,
Ка́там згубу яно прынясе,—
Выступаў прадстаўнік з лесапільні.
І яго падтрымалі усе.

А назаўтра з машынкі «Аванці»
Зышлі зводкі Саўінфармбюро.
Сувязныя іх клалі у ранцы,
На дарогах, ля белых бяроз.

Працавала разведка няспынна,
Выкрывала злачынствы звяруг:
«Біце ў лоб іх, страляйце у спіны,
Не шкадуйце патронаў і рук!»

Ўсё часцей цягнікі — пад адхоны,
Бо да фронту далёкі ім шлях —
Гэта з фабрык прыйшла і загонаў,
Гэта помста народа прыйшла!

Што ні дзень — то удары па катах,
Што ні дзень —то у горле іх ком.
Ды знайшоўся ў радах правакатар,
Пад удары паставіў гарком.

Так загінуў настаўнік Аўсеня
І Раманава жонка, сябры.
А ён сам у той вечар асенні
Па шляхах партызанскіх пабрыў...

Біў паклоны на «шчырай» малітве
Правакатар, што звалі Спявак.
Яго помняць па жэсту «Хайль Гітлер»
І што песню аб Шчары спяваў.

6

Далягляд засцілаўся туманам,
Але вецер яго павалок
Па дарозе, дзе Віктар з Раманам
Пакідалі свой дом і сяло.

22 — то прайшоўшыя годы.
Колькі сонца цяпер і цяпла!
Калі ўспомняцца дні непагоды,
Ты, гарачае сэрца, не плач!

У Рамана — цудоўная змена —
Сын на дзядзька падобны, як дзень.
Так жыццё пераходзіць нязменна
І ўсё далей і далей ідзе.

Але так чалавек збудаваны,
Што не можа забыць аб былым.
Аднаўляюцца даўнія раны,
І на вуснах гаркавы палын.

Ёсць у нас жа і светлая доля,
І лякарства гаючых крыніц —
Гэта праца, свабода, раздолле,
Гэта музыка, толькі крані.

А каб мы не забылі паходы,
Гаркаваты садзіцца налёт.
І трывожыць нас сіверны подых,
Каб скраблі нарастаючы лёд.

Гэта добра — ёсць чулыя душы,
Будзем біць абыякавасць ўсе.
Супраць войнаў паходамі рушым
І таго, хто нам войны нясе.

Быў Раман хлебаробам, салдатам
І работнікам іншых галін.

І цяпер не дапусціць, каб атам
Чорным грыбам паўстаў на Зямлі.

Хай Зямля будзе месцам спакою
І ў Сусвеце крыніцай жыцця.
Хай балота шуміць асакою,
Хай асіны лісцём шалясцяць.

Хай растуць векавечныя сосны,
Няхай іскрамі сыплецца снег
І красой залаціста-дзівоснай
Выйдзе сонца насустрач вясне.

Хай буйней наліваецца колас
І сінее ўдалі цішыня,
Каб ты мірна глядзеў навакола
І каб слухаў, як птушкі звіняць.

Каб цудоўны быў край — не іначай! —
Дзе над рэчкай — чыгункі страла.
І хай песня ніколі не плача:
«Да чаго ты мяне давяла».

*1965*

* * *

Мо схадзіць па даведку ў бюро?
Не, і так я да мэты дайду.
Два рады беластвольных бяроз
Па краіне мяне павядуць.

Дваццаць год па гасцінцы хадзіў
З пастарунка у следчы астрог.
І каб я між бяроз не блудзіў,
Паліцаяў давалі аж трох...

Сёння сам я спускаюся з гор
І прайшоў не адну ўжо вярсту.
А здалёк — Салігорск, Светлагорск
Набягаюць агнямі, растуць.

*1979*

* * *

Не выпускаю аўтамат,
Тры дні хоць я не еў.
Затое соснаў маю шмат,
Бярозы ўсе мае.

У лес хацелася калісь
(Вядома, быў малы),
Каб скінуў клён чырвоны ліст,
Панюхаць пах смалы...

А ў сон ўрываецца не раз
Той кулямётны лай,
Мігценне вогненнае трас
Ля ціхага сяла.

*1972*



Быў цудоўны ранак сіні,
Шапацелі дрэвы ціха.
Па сасонніку ў асіннік
Пераходзіла ласіха.

Ласяня ступала следам,
Абівала з траваў росы.
Не маглі прадбачыць, ведаць
Аб трагічным сваім лёсе.

Грымнуў выстрал нечакана,
І ў вачах ласіхі-маці
Пахіснуўся сіні ранак,
Асядаў і колер страціў.

Браканьер душыўся смехам,
Ласяня лавіў між лісця.
Рагатала ў нетрах рэха,
Як зарэзаны нячысцік.

*1970*

## ПЕРАМОГА

Яна адтуль ішла, дзе сонца
Уставала з мужнымі людзьмі.
Яна ў грудзях, як сок у гронцы,
Штодзень брыняла, кожны міг.

*1971*



Дні бягуць, і мы старэем.
Маладзее родны край.
Чым мацнейшыя завеі,
Прыгажэйшым будзе май.

Вось і май, зялёны поўдзень.
Я прашу цябе ізноў:
Мо вясне насустрач пойдзем
Жытнім полем, баразной?

Не магу я надзівіцца
На прыроду, на вясну.
Родны край мне будзе сніцца,
Як прылягу, як засну.

*1969*

## СВЯТЛО КАСТРЫЧНІКА

Ліст кружыўся і падаў,
Як падстрэлены птах.
У сёмы дзень лістапада
Узняўся вогненны сцяг.

Дзень пахмурны, ды з толкам —
Людзі сонца няслі
На штыках, на вінтоўках
Па шырокай зямлі.

А святла колькі ў словах
І на вуснах дзяцей!
Ужо не біў па галовах
Беднату багацей.

Невыказная радасць
Біла з жэрлаў гармат,
Біла з вуліц, эстрадаў
І з пахіленых хат.

Беларусь стала песняй
І лягла на душу.
І яе між равесніц
Я ў анкету пішу.

Ліст кружыўся і падаў —
Люд падняўся, устаў.
47 лістападаў.
48-мы настаў.

*1964*

## ПАМЯЦІ ПАЭТАЎ

### Міхася Васілька

Прачытаў «З сялянскіх ніў» —
Акунуўся ў водар.
Недзе жаўранак званіў
Песню пра свабоду.

З хваляў жыта Васілёк
Мне паказваў вочы.
І над полем плыў здалёк
Ціхі сум дзявочы.

Селянін кляпаў касу
У варожым стане...
І зліваўся гэты сум
З гневу нарастаннем.

Заклікаў паэт зару
З блізкага усходу,
Бо любіў ён Беларусь —
Край бацькоў, свабоду.

### Аляксандра Пракоф'ева

Я Пракоф'ева набыў
Тры тамы, як лёду.
Падару іх, так і быць,
Захаваю моду:

Хай чытае сябар мой.
Будзе том чацвёрты —
Павязу яго зімой,
Хай мільгаюць вёрсты.

Зачытаўся — не магу
Аддаваць душу я.
Нібы чую хваляў гул:
Сэрца так бушуе.

Ах ты, сэрца, пачакай
Так трывожна біцца.
Вось Расія —
мілы край,
І лячу я быццам.

Ленінград.
Калуга.
Дон.
Вогненныя вёрсты...
І хаджу я ў кніжны дом:
Дайце том чацвёрты!

*1981*

## ТВОЙ ДЗЕНЬ

М. С.

Прыносіць вецер пах жывіцы —
Ўстае ў вачах зялёны бор.
Усім жадаю я: жывіце!
А захапляюся табой.

Цяпер зіма. Бяжыш насустрач.
А мне здаецца, што з сасны
Нібы ляціш ваверкай шустрай.
А можа, гэта я прысніў?

Гляджу на ўсход —
гарыць над светам
Твой дзень у полымі зары,
Зялёнай лапкай-эстафетай
Махае ў сонечным бары.

## ПАРТРЭТ ЛЕНІНА

Шумела прыцемкам лаза,
Трывожны быў той дзень.
Балотам група партызан
Спяшыла ў вёску Н.

І хоць крычала груганнё,
Сцяжынка іх вяла
Туды, дзе цьмяна аганёк
Бліпчаў сярод сяла.

Разведаць трэба, ёсць ці не
Фашысцкі тут сакрэт...
І раптам — ў хаце на сцяне...
Знаёмы ўсім партрэт.

Вядома, немцаў не было —
На варце правадыр.
А на чыгунцы за сялом
Звінелі правады.

Яны звінелі да пары.
І помсты час настаў,—
Падкінуў ўгору моцны ўзрыў
Чыгуначны састаў...

І зноў лазовы мокры шум
І вецер твар сячэ —
Цяпло ж струменіць у душу
З прыжмураных вачэй.

*1972*

# ЗМЕСТ

«Хачу не проста жыць...» *Прадмова Алега Лойкі* . . . . . . . . . . . . . . . 3
Жыву ў бацькоўскім краі . . . . . . . 11

З кнігі «ПЕСНІ НА ЗАГОНАХ»
*(1930)*

Песні на загонах . . . . . . . . . . 13
*** Я век прыкаваны да хаты... . . . . . 14
У шуме жыта . . . . . . . . . . . 14
З чужыны . . . . . . . . . . . . 15
У сінеючыя паплавы... . . . . . . . . 16
Хтось расчэсваў зялёныя сосны . . . . 17
Малюнкі . . . . . . . . . . . . . 17
Над Шчарай . . . . . . . . . . . 18
Пад ранак . . . . . . . . . . . . 19
Веснавыя думы . . . . . . . . . . 19
Гэта вясна . . . . . . . . . . . . 20
*** Я шукаў яшчэ вясною... . . . . . . 21
*** І вось ізноў зазелянелі нівы... . . . . 21
Да жніва . . . . . . . . . . . . . 22
*** Моўчкі сонца села... . . . . . . . 23
Загарэліся іскрамі зорнымі . . . . . . 23
Ноччу . . . . . . . . . . . . . . 24
Залацілася раніца . . . . . . . . . 25
Ці то песні? . . . . . . . . . . . 25
Восень . . . . . . . . . . . . . . 26
*** Ізноў ліюцца песні, песні... . . . . . 26
Збуджаны верш . . . . . . . . . . 27
З песняй . . . . . . . . . . . . . 27
На бруку . . . . . . . . . . . . . 28

З кнігі «З ПРОЙДЗЕНЫХ ДАРОГ»
*(1970)*

Другу юнацтва . . . . . . . . . . . 29
След рукі . . . . . . . . . . . . 30
Першамайскі ранак . . . . . . . . . 30
Малюся я . . . . . . . . . . . . . 31

Шчасце . . . . . . . . . . . . . 31
Касьба . . . . . . . . . . . . . 32
Вёска . . . . . . . . . . . . . 33
За варштатам . . . . . . . . . . . 33
На этапнай дарозе . . . . . . . . . 34
Мая песня . . . . . . . . . . . 35
Верасень . . . . . . . . . . . . 36
Я выйду ў поле рана . . . . . . . . 36
Партызаны-камсамольцы . . . . . . . 37
Ліст у Нямеччыну . . . . . . . . . 38
Аганёк . . . . . . . . . . . . . 39
Прыляцелі снегіры . . . . . . . . . 39
Сасна . . . . . . . . . . . . . 40
Жураўлі . . . . . . . . . . . . 41
Паэзія . . . . . . . . . . . . . 42
Унучка рыбака . . . . . . . . . . 43
Спарышы . . . . . . . . . . . . 43
Слонім — мой родны горад . . . . . . . 44
Тры сасны . . . . . . . . . . . 45
Лясная ідылія . . . . . . . . . . 46
Блакітная хусцінка . . . . . . . . . 46
Гляджу на лес . . . . . . . . . . 47
Партызанскія прасторы . . . . . . . 47
Лісткі календара . . . . . . . . . 48
Мосцік . . . . . . . . . . . . 49
У роднай вёсцы . . . . . . . . . . 49
*** ...Перамога! Перамога!.. . . . . . . 50
Гарады, іграйце пераклічку! . . . . . . 50
Мой горад . . . . . . . . . . . 51
Валянціну Таўлаю . . . . . . . . . 52
*** Праз чаромху ўрываецца ў сені... . . 52
У лесе . . . . . . . . . . . . 53
*** Адшумеў прастор калоссем... . . . . 53
На калгасным полі . . . . . . . . . 54
Ключык сіні . . . . . . . . . . . 55
Вера . . . . . . . . . . . . . 57
Паэма пра камсамольца Валодзю Бялько . 59

НОВЫЯ ВЕРШЫ

Хай крочыць Бранеўскі! . . . . . . . 68
Пароль . . . . . . . . . . . . 69
На світанні . . . . . . . . . . . 70
Пачатак шляху . . . . . . . . . . 71
Роднаму краю . . . . . . . . . . 72
Абеліскі . . . . . . . . . . . . 72
*** Па-над Слонімам стыне... . . . . . 73
Палеская бетонка . . . . . . . . . 73

Над картай рэспублікі . . . . . . . . . 74
Песенны край . . . . . . . . . . . . 75
Лясны паклон . . . . . . . . . . . . 77
Дзівосны свет . . . . . . . . . . . . 81
У зімовым лесе . . . . . . . . . . . 82
На лыжах . . . . . . . . . . . . . 84
*** Пакасілі мае... . . . . . . . . . . 84
Ты стала песняю . . . . . . . . . . 85
Сонца і краты . . . . . . . . . . . 85
Тое поле . . . . . . . . . . . . . 86
Дабрадзея . . . . . . . . . . . . . 87
Зацесна Нарве ў берагах . . . . . . . 88
У Плоцку . . . . . . . . . . . . . 89
Дзе тыя Пясчанікі? . . . . . . . . . 90
На братняй зямлі . . . . . . . . . . 91
Закаласуе новы дзень . . . . . . . . 92
Беларусь у кожнай кроплі . . . . . . 92
Пачатак вясны . . . . . . . . . . . 93
Успаміны . . . . . . . . . . . . . 94
Дружба . . . . . . . . . . . . . . 95
Чыгунка . . . . . . . . . . . . . . 95
Хадзілі мы паходамі... . . . . . . . . 97
Першы снег . . . . . . . . . . . . 99
Мірная раніца . . . . . . . . . . . 100
Скарына . . . . . . . . . . . . . 101
Дарога . . . . . . . . . . . . . . 101
Блакітнае імгненне (П а э м а) . . . . . . 103
Вуліца Івана Дабрыяна (П а э м а) . . . . 114

ВЕРШЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ

Родная зямля (П а э м а) . . . . . . . 128
Хай будзе мір! (П а э м а) . . . . . . . 140
*** Мо схадзіць па даведку ў бюро?.. . . . 150
*** Не выпускаю аўтамат... . . . . . . 150
*** Быў цудоўны ранак сіні... . . . . . 151
Перамога . . . . . . . . . . . . . 151
*** Дні бягуць, і мы старэем... . . . . . 152
Святло Кастрычніка . . . . . . . . . 152
Памяці паэтаў . . . . . . . . . . . 153
Твой дзень . . . . . . . . . . . . 155
Партрэт Леніна . . . . . . . . . . . 155

**Іверс А.**
**І-17** **Жыву ў бацькоўскім краі: Вершы і паэмы.— Мн.: Маст. літ., 1982.— 159 с., 1 л. партр.**
**У пер.: 85 к.**

Кніга знаёміць чытача з лепшымі творамі аднаго са старэйшых паэтаў рэспублікі. Лірычнаму герою зборніка ўласціва абвостранае пачуццё любві да людзей, роднай прыроды.

**І $\frac{4702120200-084}{М302(05)-82}$ 118—82** **ББК 84 Бел 7**
**Бел 2**

*Анатоль Иверс*
*(Иван Дорофеевич Миско)*

**ЖИВУ В ОТЧЕМ КРАЕ**
*Стихи и поэмы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *В. С. Сёмуха.* Мастак *Н. Л. Шаўшукова.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Карэктар *Я. А. Бебель.*

ІБ № 1535

Здадзена ў набор 04.01.82. Падп. да друку 04.05.82. АТ 05110. Фармат 75×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 6,25+0,08 укл. Ум. фарб.-адб. 6,41. Ул.-выд. арк. 6,17. Тыраж 5000 экз. Зак. 2273. Цана 85 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.